
Анна Бляўская➔5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



З «Нівай» пра Тарашкевіча➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3213) Год LXII Беласток, 10 снежня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Прыродны мір Міры ЛУКШЫ



**Елка**

Зялёныя іголкі чула
заколюць у сэрца,
калі вецер марозны
зайграе ім скерца.
Лепш жыві ў лесе,
не прыходзь у хату,
каб ёлкай святочнай
стаць у нас багатай.
Пад навіслым голлем –
прытулак звярушак.
На жывых галінах
лётных птушак гушкай.
Жыццё новае ў шышках
узгадоўвай плённа,
яліначка з лесу,
сястрычка зялёная...

**— Выйшла чарговая, ужо 16 кніжка Тваёго аўтарства. Можна ганарыцца такім творчым здабыткам. А ці памятаеш, якія пачуцці суправаджалі выданне Тваёй першай кнігі?**

— «Дзікі птах верабей» выйшаў даволі позна — мне было ўжо 32 гады.

**— Але гэта была Твая дэбютная кніга?**

— Так. Хаця я дэбютавала 44 гады таму, яшчэ ў пачатковай школе. Дэбют адбыўся на літаратурнай старонцы «Нівы».
З гэтага моманту я амаль увесь час супрацоўнічаю з «Нівай», з «Белавежай», яшчэ са старой «Белавежай», у якой праз доўгі час я была самай маладой асобай. Быў Сакрат Яновіч, які цэлы час намаўляў мяне пісаць прозу. Былі сустрэчы, семінары... Праз 12 гадоў ад дэбюту я стала працаваць у «Ніве».

**— «Ніва» выдала пяць Тваіх кніг?**

— Так. Менавіта першую кнігу таксама выдала «Ніва». Гэта была першая кніга выдавецтва Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва». Добрая рука была і добры пачатак, думаю. Кніжачка нятоўстая, але значная перш за ўсё для мяне самой. Гэта быў кніжны дэбют і даволі вялікі тыраж. Калі гаварыць пра навейшыя кнігі, яны вельмі хутка мне разыходзяцца. Не наракаю, бо сустракаюся з людзьмі, з моладдзю і мае кніжкі проста ідуць у свет. Шаснаццаць кніг гэта ўжо добры кавалак майго творчага плёну. Гэты год сапраўды быў ураджайны і я мела шмат працы. Выдаваліся пераклады кніжак, тлумачэнні вершаў, міжнародныя выданні, дзе я прымала ўдзел як аўтар. У 2016 годзе выйшлі «Гражынка і Грак» — зборнік вершаў для дзяцей, якія друкаваліся ў «Ніве». Зборнік «Радаслоў», выдадзены з нагоды Сусветных дзён паэзіі ЮНЕСКА. Вось вершы «Спеў дрэў» таксама з інспірацыі «Нівы», перш за ўсё Ганны Кандрацюк, таму што пісаліся яны ў «Зорку», для нашых дзяцей. Кніжачка змяшчае не ўсе вершы, толькі выбар, думаю, вельмі трапны, зроблены Яўгенам Вапам, які з'яўляецца рэдактарам кніжкі. Гэта кніга — можна сказаць — абсалютна сучасны артэфакт, таму што ёсць вершы, ёсць інтэгральная частка — малюнкі Міраслава Здрайкоўскага. Яны не тлумачаць вершаў, але проста паказваюць расліны, дрэвы, якія растуць разам з намі. Я, як аўтар, вядома, напісала тэксты, але яны поўнасцю — задума ніўцаў. Геніяльная таксама задума Адама Паўлоўскага адносна выгляду кніжкі. Яна выдадзена на экалагічнай паперы. Я вельмі задаволеная і шчаслівая, што кніжка паказалася. Можна з яе шмат даведацца, напрыклад, як выглядае канкрэтнае дрэва. Мы не заўсёды знаходзім час, каб пайсці на палі, на лугі і задумвацца, чым адрозніваецца адна вярба ад другой.

**— Але ўсе дрэвы з Тваёй кніжкі — падляшскія, тутэйшыя?**

— Так, абсалютна, хаця я пісала таксама вершы пра экзатычныя дрэвы: былі лаўр, баабаб і какосавая пальма. Але знайшлося тое ўсё, што расце разам з намі, ёсць спасылкі на міфалогію, на беларускую ці славянскую культуру, прыведзены культурныя і народныя асацыяцыі адносна канкрэтнага дрэва. Але змяшчаецца і прамыя інфармацыі, як канкрэтнае дрэва выглядае, якія мае плады, што з ім можна зрабіць, у чым яно карыснае.

**— Тыя дрэвы могуць асацыявацца з жыццём чалавека: расце, даспявае, нараджае, памірае і адраджаецца...**

— Так, можна ўзяць кніжачку прачытаць, напрыклад, пра каліну.

**— Вось менавіта, Ты сказала, што ад Тваёго дэбюту ў пачатковай школе заўсёды былі вакол Цябе такія людзі, якія творча на Цябе ўплывалі і дзякуючы якім Ты ўзрастала. Гэта вялікае шчасце?**

— Абсалютна, я мела шчасце. Дзякуючы кантакту з Георгіем Валкавыцкім, які выlabelаві ўсіх нас з тых, хто піша. Пачынаючы ад Сакрата Яновіча. Усе дарогі нашых пісьменнікаў вялі ў «Ніву» і цераз «Ніву». Цяпер кожны з аўтараў — значных, менш значных, якія супрацоўнічаюць з «Белавежай», якія нам пішуць на конкурс «Дэбют» — такі самастойны і самабытны. Кожны з іх мог бы існаваць без арганізацыйнай шапкі тыпу «Белавежа» ці «Ніва», але мы мацнейшыя разам. Выходзяць такія артэфакты, якія з'яўляюцца вынікам нашага супрацоўніцтва і інспірацый. Кніжка «Жывінкі з глыбінкі» паўстала дзякуючы маім рэдакцыйным сябрам і чытачам. Кожны з тых вершаў ужо існуе самастойна. Кніга «Спеў дрэў» быццам бы шэранькая, на шэрай паперы, але з зялёным дубам на вокладцы і сасною ззаду. Перш за ўсё гэта кніжка для дзяцей, але і дарослы чалавек можа знайсці ў ёй нешта сабе. Гэта вынік нашай працы, бо мушу сказаць, што гэта не толькі мой твор, а наш супольны — людзей з «Нівы». І думаю, што цяпер пойдуць гэтыя дрэвы і кусты на паліцы нашых чытачоў. Я вельмі рада, што лісточак нашага дрэва будзе расці.

**— Так што натхняюць Цябе так «ніўскі», як і «белавежскі» калектывы. Менавіта з гэтым другім у 2018 годзе будзеш святкаваць юбілей 60-годдзя літаб'яднання і свой юбілей.**

— Так, гэта будзе юбілей нашай «Белавежы» і мой таксама. Я на паўгода маладзейшая за «Белавежу» (*смех*). Там ужо дзякуй Богу маладыя парасткі пачынаюць з'яўляцца ў гэтай вялікай арганізацыі, якая калісьці была толькі літаратурна-мастацкай групай, а цяпер яна з'яўляецца групай у большасці спелых аўтараў, якія выдаюць цікавыя рэчы.

**— Ты святкуеш дзень нараджэння 9 лістапада. «Спеў дрэў» лічыш свайго роду падарункам?**

— Скарпіён — вельмі літаратурны знак. Можа крышку асенні, хаця я не да канца асенні чалавек, бо вясёлы. Той лістапад — сыплюцца лісты нашых твораў, сыплюцца лісты нават і з насеннем. Я шчаслівая, што мая кніжка выйшла. Так, гэта мой падарунак нашым чытачам, асабліва тым, якія падпісваюцца на «Ніву». Спадзяюся, што яна таксама будзе для кагосьці інспірацыяй. Сёлета сапраўды я перапрацавалася. Пад канец мая ў мяне было вельмі кепска са здароўем. Я чалавек не вельмі здаровы — змагаюся з цяжкай хваробай, але забывалася пра боль ці пра нейкую такую стому...

**— Таму дуб на вокладцы?**

— Так, дуб і сасна! Сасна сваёй жывіцай і лечыць, і захоўвае. Люблю іх вельмі. Я — дзяўчына з Белавежскай пушчы і самога Белавежжа, думаю, што, дасць Бог яшчэ мне здароўе і сілы, каб яшчэ нешта зрабіць. Асабліва мне падабаецца пісаць для дзяцей. Бачу, ім падабаюцца песні на мае словы, бачу рэакцыю на вершы ў дзіцячых садках. Калі цёця Міра прыйдзе, яны вельмі рады і мяне абчапляюць з усіх бакоў (*смех*). Думаю, што якраз для аўтара, калі ён застаецца адной нагой у дзяцінстве і застаецца ў ім такая цікаўнасць да жыцця і бачання трошачкі знізу ўсяго, кожнай траўкі, кожнага каменьчыка... Гэта важнае, каб застацца такім маладым, як Віктар Швед, які ў 93 гады патрапіць пісаць для дзяцей. Я ганаруся, што я цяпер яго сяброўка. Гэта быў першы беларускі паэт, якога я ўбачыла, пачула, чытала. Цешуся, што ён для мяне інспірацыя і, спадзяюся, што час ад часу ён чытае мой тэкст і думае: «От, шкада, што гэта не я напісаў» (*смех*). Ці наадварот! Гэта такая здаровая не зайздрасць, а інспірацыя, што вось нешта напішу і іншыя знойдуць сябе ў гэтым творы і будуць шукаць у ім таксама нейкай інспірацыі.

**— Дзякую.**

**Уля ШУБЗДА**





# Запозненае пакаранне

Калі злачынства караецца па гарачых яго слядах і караецца адпаведна здзейсненаму і адпаведна заканадаўству, адчуванне справядлівасці мае дастаткова моцны эфект. Бывае ж і па-іншаму. Гэта калі правапарушэнні і нават злачынствы вядомыя адразу, але на іх заплюшчваюць вочы, пакольі так зручней, а потым, калі палітычная ці іншая кан'юнктура ўжо не дазваляе гэта замоўчваць, пачынаюцца расследаванні і адпаведныя пакаранні. Пахне гэта, дакладней патыхае, ужо неяк інакш. І пакідае разам з натуральным адчуваннем справядлівасці такое ж натуральнае расчараванне. У тым сэнсе, што можна было б усяго гэтага не дапусціць на самым пачатку. Гэта я ўсё пра перагляд вынікаў сочынскай зімовай алімпіяды, калі расейскіх спартоўцаў пастфактум, амаль праз чатыры гады, пазбаўляюць медалёў за ўжываны допінг. Як быццам нехта сумняваўся, ці не ведаў нечага пра сутнасць усяго расейскага спорту раней. Пачнем з таго, што ніхто і не прыгадвае ўжо гісторыю пра тое, як крамлёўская вярхушка атрымала правы на тую алімпіяду ў Сочы. Гэта калі ў Гватэмалу, дзе праходзіў Кангрэс Міжнароднага Алімпійскага Камітэта, які мусіў вызначыць месца чарговай белай алімпіяды, з Расеі быў высланы адмысловы гіганцкі самалёт з цэлым лёдавым катком, неверагоднай колькасцю напояў, чорнай ікры і іншых далікатэсных прысмакаў для маральнага і цялеснага задаволення высокіх спартовых міжнародных функцыянераў. Калі членам МАКа ледзь не публічна раздаваліся канверты са шчодрымі ўзнагародамі за правільнае галасаванне. Ну хай не канверты ў рукі, хай пераводы на рахункі, пра якія ўсе сур'ёзныя структуры і службы цудоўна ведалі. Ніхто тады не захацеў даць хабарнікам і карупцыянерам, махінатарам і хлусам па лапах. Ніхто не захацеў узяць пад кантроль антыдопінгавыя расейскія і міжнародныя службы ў час.

Падобным жа чынам Расея здабыла сабе права на правядзенне чэмпіянату свету па футболе. Вось зараз дэпутатка Еўрапарламента Рэбека Хармс заклікала байкатаваць мундыяль 2018 года. Але рэзоннае пытанне — чаму маўчалі ўсе як адзін еўрадэпутаты ранейшага склікання. Чаму маўчалі кіраўнікі, урады ўплывовых краін, спецслужбы якіх даўно клалі папкі з адпаведнай інфармацыяй на высокія сталы?! З усіх палітыкаў тут магу прыгадаць толькі прыклад прэзідэнта Германіі Ёахіма Гаўка, які ў 2014 годзе адмовіўся наведаць белую, якую лепш назваць шэрай, алімпіяду ў Сочы.

Можна падумаць, што ўсе калізіі вакол спорту — гэта дробязі ў параўнанні з праблемамі сусветнай эканомікі і палітыкі. Але ўсё ў свеце цесна звязана і знітавана. Не было б гэтай публічнай разбэшчанасці Расеі ў спорце, якую доўга сарамліва замоўчвалі моцныя гэтага свету, а спынілі б беззаконне адразу, то не было б і маскоўскай агрэсіі ва Украіну і многа чаго яшчэ негатыўнага за апошнія гады.

Калі пішуцца гэтыя радкі, яшчэ невядома, ці дапусцяць Расею да ўдзелу ў надыходзячай зімовай алімпіядзе ў Карэі. Усё ідзе да таго, што яе асобныя спартоўцы будуць туды дапушчаны, але толькі пад нейтральным алімпійскім сцягам, іншымі словамі пры забароне афіцыйнай дзяржаўнай сімволікі Расеі. Не выключана, што ў адказ маскоўскае кіраўніцтва будзе байкатаваць алімпійскія гульні, што выкліча далейшую эскалацыю „халоднай вайны”. Пры такім раскладзе ў пікантную сітуацыю трапіць Беларусь, якой давядзецца альбо далучацца да пазіцыі Расеі ў прымусовым парадку, альбо неяк выкручвацца ў мядзведзевых абдымках „старэйшага брата”. А да ўсяго, у разе адлучэння расейскай дружыны, яе месца на хакейным алімпійскім турніры ў Карэі павінна заняць якраз наступная па рэйтынгу, а гэта зборная... Беларусі. Як з такой сітуацыі выкруціцца „хакеіст нумар адзін” — пэўная інтрыга. Ягоныя ідэолагі ў асобах галоўных рэдактараў буйнейшых газет РБ на мінулым тыдні ўжо прэвентыўна палізалі ўсходняга суседа ў адпаведным месцы. Так што кірунак зразумелы. А як будзе насамрэч з гэтай алімпіядай — пабачым.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Дужкі маёй гісторыі



Звычайны каляндар, як квадрат, мае ўсе правільныя куты. Ад пачатку да канца ясны, добра складзены, прадказальны. Мой — не. Аднак не адчуваю сябе горшым па гэтай прычыне. Лепшым таксама не. Звычайны каляндар мае строга ўпарадкаваную іерархію, у маім дні і месяцы скачуць нібы хуткія лані — ад кветкі да кветкі. Але... пачакайце. Гэта, хіба ж, пра пчол. Або матылькоў. Ва ўсякім выпадку, якая розніца — лань ці іншы матылёк? Яны перасковваюць, праўда, з вытанчанасцю, але таксама за межамі майго разумення. Ну, гэта мой каляндар няправільны... як ромб. Таму чарговыя дні скарачаюцца ў ім, або надточваюцца. Або кульгава выяўляюцца не ў гэтым месяцы, дзе «нармальна — па своеасаблівай геаметрыі ромба. Сёння — заўтра, ці ўчора было сёння. Або паслязаўтра. Тое ж самае і з дзесяцігоддзямі, і стагоддзямі. Якая розніца, што і калі, калі ўсё паўтараецца ў гісторыі, як квадрат, які ў свядомасці людзей пакарабаціўся, або як ромб, які ў сваіх кутах лагічна выпростваецца.

Возьмем, да прыкладу, памятны 1989 год, увянчаны Круглым сталом і літаральна рэвалюцыйнай, але і бяскроўнай зменай палітычнай сістэмы ў Польшчы. Для мяне гэта асаблівы год, амаль культавы. Год, у якім Польшча вярнула сабе дэмакратыю, а палякі сваю ўласную годнасць, надзею, будучыню. Для мяне, але, верагодна, і для значнай часткі так як і я «ромбнутых» польскіх грамадзян. Тым не менш, існуе такая частка з іх, для якіх ён явіцца годам здрады, нацыянальнага прадажніцтва, заняволення, ганьбы. Прызнаюся, што я гэтага не разумею. Дзе квадрат, і дзе яго простыя куты? Пытаюся адразу: хто тут «ромбнуты»? Але чытаю працу Алексіса дэ Таквіля, напісаную больш-менш у сярэдзіне ХІХ стагоддзя. Ён піша пра растрачаныя надзеі рэвалюцыі ў Францыі, якая пачалася ў 1789 годзе, а праз дзесяць гадоў драматычнага фарматавання дэмакратыі правалілася ў выніку перавароту, праведзенага Банапартам. Той, які не пазбягаў рэвалюцыйных лозунгаў, дзень пасля абвясціў сябе Першым Консулам. Пасля Кесарам, такім жа шалёным як апакаліптычным, як самаўлюбёным і эгаістычным, і ў той жа час, як ні дзіўна, усляпую каханым паловай французаў, а другой горача зненавідным дэспатам і тыранам. Так дэ Таквіль пісаў у прадмове да сваёй кнігі п.з. «Стары лад і рэвалюцыя» пра памылкі і фальшывыя меркаванні французаў або іх часткі, «якія мусілі адмовіцца ад сваіх першапачатковых намераў і забыць аб свабодзе, захацелі толькі стаць роўнымі слугамі ўладара свету». Далей аналізуе тое, «у які спосаб урад мацнейшы і значна больш абсалютны, чым той, які Рэвалюцыя зрынула, зноў пераймае і бярэ ў свае рукі ўсю ўладу, здымае ўсе гэтыя так дорага аплачаныя свабоды, змяшчаючы на іх месца фарбаваныя карцінкі, і называючы ўладай народа (суверэна? — мая прыпіска) аддаванне галасоў выбаршчыкамі, якія не могуць ані задаваць пытанняў, ані патрабаваць адказаў, ані дагаворвацца, ані выбіраць, называючы добраахвотным прынясцем падаткаў дазвол нямых або падпарадкаваных сходаў і адымаючы народу здольнасць кіраваць сабой, самыя галоўныя праваявыя гаранты, свабоду думкі, выказвання і пісання, значыць, тое, што было самым каштоўным і шляхетным у дасягненнях 89 года — ён прытым яшчэ строіцца ў гэтае вялікае імя». Дастаткова цытат з Таквіля, каб спытацца з хваляваннем: які год мы маем цяпер?

А ў чым розніца? Вядома, у нас ёсць вельмі кароткія дні і жудасна доўгія ночы. Наша жыццё зараз здаецца быць жудасна жудасным. Учора я лічыў месяцы да вясны. Выйшла 4, з сакавіком. Але без сакавіка, калі палічыць, што пачатак снежня можа быць свабодна канцом лістапада, і так выходзіць 4. Толькі што без сакавіка! Дзіўны месяц сакавік — ні холадна, ні цёпла. Нейкі невыразны. Ён больш за ўсё нагадвае мне цяперашні перыяд польскай палітыкі. Такім чынам, возьмем сакавік і «пісаўскую» пертурбацыю ў дужкі. Так паміж зімой і летам. А калі наконт дужак, гэта вельмі інтрыгуючая графічная фігура. Уціснутая паміж словы ці сказы, адкрывае бясконцыя прасторы магчымага запісу. Дужкі для мяне з'яўляюцца свайго роду закваскай сюжэту. Прапачаткам Гісторыі...

Я настойваю, што 1989 год быў адной з самых важных дат у гісторыі Польшчы. Думаю, што нават больш важнай, чым дата яе хрышчэння і пераможнай Грунвальдскай бітвы. Аднак, Гісторыя не піша сябе сама. Пішуць яе... недавучаныя пісарчукі?!

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Замоўчаны Тарашкевіч

Прывіды гісторыі кружаць увесь час над намі. Іх з'яўленне мае заўсёды непасрэдны кантэкст з бягучымі падзеямі ў супадзенні з важнымі фактамі з мінулага. Няйначай склалася і ў выпадку дэкамунізацыі аб'ектаў імя Браніслава Тарашкевіча ў публічнай прасторы Бельска-Падляшскага. Менавіта на мінулым тыдні прайшло чысло дваццаць дзявятага лістапада, якое лічыцца афіцыйнай датай расстрэлу Тарашкевіча ў мурах мінскай турмы ў 1938 годзе. Аднак некаторыя гісторыкі схіляюцца таксама да версіі, што цягам дзевяці месяцаў беларускі палітык быў проста смяртэльна катаваны энкавэдыстамі ў невыносных муках і здзеках. Зараз увесь польскі дэкамунізацыйны закалот на фоне генацыду беларускай інтэлігенцыі, пачатага ў лістападзе 1937 года камуністычнай сістэмай, для мяне самога з'яўляецца толькі жахлівым, д'ябальскім рогатам гісторыі. Лёс дзеячаў беларускай справы ў міжваенны перыяд — гэта наша нацыянальная трагедыя і траўма, якая павінна стаць агульнадзяржаўнай справай ушанавання іх намі і наступнымі пакаленнямі. Трагічны лёс агульнавядомых палітыкаў і пісьменнікаў супадаў з лёсам тысяч безыменных ахвяр, абвінавачаных у адной і той жа справе — у званні сябе беларусамі і ў жаданні не быць тымі ўмоўнымі купалаўскімі скотамі, якімі менавіта сталі рэжысёры і выканаўцы страшнай разні над беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі — спачатку ў Савецкай Беларусі, а потым над тымі, якія змагаліся за беларускасць у Заходняй Беларусі. А змагаліся бязлітасна, ад правых да левых — з асаблівай падазронасцю да былых сяброў Беларуска сялянска-работніцкай грамады і нават беларусаў з радоў распушчанай Сталіным Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Таталітарная камуністычная сістэма планава і па-зламысніцку праводзіла крывавую, жахлівую дэбеларусізацыю. Браніслаў Тарашкевіч, які з'яўляецца менавіта сімвалам змагання за беларускую мову, школу, палітыку, быў паддадзены такім зверскім катаванням з боку «народных савецкіх органаў», каб раз і назаўсёды выбіць нам з галоваў нават беларускія сны на матчынай і бацькоўскай мове. То ён на судзе перад Богам і гісторыяй з'яўляецца адным са сведак і ахвяр абвінавачванняў у адрас камуністычнай сістэмы. А тут ідэалагізаваны польскі даследчык у адзін момант пераўтварае Браніслава Тарашкевіча — ахвяру камунізму і сталінізму — у зморчны сімвал камуністычнай ідэалогіі!

Таксама з перапалохам наглядаю, на якую і чыю сімволіку спасылаюцца зараз дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь. Адкрытае шанаванне «дасягненняў» Леніна, Сталіна, Дзяржынскага і астатніх катаў Беларусі, замацоўванае русіфікацыяй краіны, а затым цел і душ яе жыхароў, вядзе ў чарговую пастку нацыянальнай безабароннасці і палітычна-духоўнага нявольніцтва. Жахам, бязглуздзіцай і выяўленнем сапраўдных «гаспадароў краіны» з'яўляецца сёння вобраз кіраўніка Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Ігара Шуневіча, якому найбольш даспадобы выступаць у час дзяржаўных святкаванняў у мундзіры энкавэдыста, што быццам бы прыдае яму своеасаблівы гонар. На такую аплявуху трагічнай гісторыі свайго народа маўкліва не рэагуе ўспыхлівы, як дзікі кот, у многіх зусім менш важных сітуацыях і сам кіраўнік дзяржавы. Пытанне ўзнікае адно: ці ён сам па сабе так моцна баіцца гэтых рэальных уладароў сваёй абарончай лініі Сталіна, ці можа так надалей верыць у мінулыя «таталітарныя дэмакратыі»?

Восем месяцаў таму ў Мінску ў двары побач з плошчай Перамогі на трансфарматарнай будцы, дзе калісьці з'явіўся, а потым быў зафарбаваны партрэт Васіля Быкава, быў размешчаны постар, які паказвае міністра МУС Ігара Шуневіча ў палявой форме НКВД і з пісталетам у руцэ. Надпіс побач з ім абвяшчае: „Это я горжусь формой и методами НКВД”.

Пры такім разуменні дзяржаўнасці і гісторыі не здзіўляе, што атака на Тарашкевіча прыйшла яшчэ летам гэтага года з боку галоўнага рэдактара газеты «Советская Белоруссия» Паўла Якубовіча, аднаго з самых важных лукашэнкаўскіх ідэолагаў, якога мэтай была абарона добрага імя... энкавэдыстаў пры адначасным клеймаванні Тарашкевіча. Таму не здзіўляе неадназначнае маўчанне беларускіх улад у гэтай справе. А каму гэта на руку — не трэба тлумачыць.

Яўген ВАПА

# Беларускі абрад на сцэне ГДК

**Раённыя агляды XXIV Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» прайшлі ў Беластоку, Бельску-Падляшскім і Грабаўцы. Цэнтральны агляд абрадаў у выкананні беларускіх калектываў Галоўнае праўленне БГКТ наладзіла 19 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры, які быў суарганізатарам мерапрыемства. Свае тэатральныя ўмеласці ўдала паказалі прадстаўнікі старэйшага пакалення, якое цяпер у галоўным састаўляе вясковае насельніцтва, ды гарадскія вакальныя калектывы і хары. Цікава запрэзентавалі яны перdesigned-казваныя з пакалення ў пакаленне абрады, якія адлюстроўваюць эпізоды святочнага і штодзённага вясковага жыцця. Робяць гэта з мэтай захаваць абрады ад забыцця і перадаць іх маладому пакаленню. Сёлета асабліва актыўнымі ў гэтым плане былі дзеткі і моладзь, якія падрыхтавалі ажно пяць выступленняў на агульны лік адзінаццаці запрэзентаваных падчас раённых адбораў абрадаў. Па-акцёрску запрэзентаваліся маладыя асобы, якія вучацца беларускай мове, хочуць вяртацца да нашых традыцый і рыхтавацца да выступаў на сцэне з колішнімі абрадамі.**



«Антракт» з Бельска-Падляшскага

— Падчас прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» мы выходзім да публікі з нашымі абрадамі. Калектывы паказваюць, чым займаліся нашы дзяды і прадзеды ў сваім жыцці. Нас асабліва цешыць, што большае колькасць выступоўцаў у вучнёўскім узросце, якія цікава прэзентуюцца на сцэне. Важна, каб моладзь даведалася і ўбачыла, чым жыў у мінулым беларускі народ. Калі б адрачыся ад нашай гісторыі і нашых традыцый, нас як беларускай нацыі не стане. Спадзяюся, што моладзь будзе пераймаць нашы беларускія традыцыі і пераказваць іх чарговым пакаленням, — сказаў намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень. — У гэтым годзе на просьбу Іаланты Сохі з Асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных і мясцовага насельніцтва раённы агляд адбыўся ў Грабаўцы, а не ў Дубічах, як было раней. Такое рашэнне апраўдалася, бо прыгожа адрамантаваная святліца ў Грабаўцы запоўнілася мясцовымі жыхарамі, перш за ўсё старэйшымі асобамі, якім складана было б дабрацца нават у Дубічы-Царкоўныя. Ім асабліва цікава было паглядзець тое, што прэзентавалася на сцэне і параўнаць са сваім жыццём у моладасці.

Сярод публікі мерапрыемства былі старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і іншыя госці. Цэнтральны агляд удала вяла Анна Бабік.

Па-акцёрску на сцэне выступіла дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік. Прыехала яна разам з тэатральным калектывам «Антракт», якім апякуецца ўжо дваццаць гадоў, будучы раней тэатральным інструктарам. Ужо амаль тры месяцы Альжбета Фіёнік з'яўляецца дырэктарам Бельскага дома культуры, але не пакінула апекавацца сваім калектывам. «Антракт» цікава паказаў абрад «Перад выездам да шлюбу». Маладых бельскіх акцёраў успамагалі акцёры з тэатральнай групы «Рэтра», якой таксама апякуецца дырэктар А. Фіёнік. Дзве тэатральныя групы супольна паказваюць абрадавыя сцэнкі з жыцця беларусаў.

— Маладыя вучацца ад нас, як калісь беларусы весяліліся падчас сямейных мерапрыемстваў і пасля завяршэння палявых работ. Мы рады, што моладзь хоча знаёміцца з нашымі абрадамі і паказваць іх на сцэне, — заявіў Уладзімір Весялоўскі, які між іншым іграў царскага чыноўніка ў фільме «Бежанцы 1915-1922» Юрыя Каліны. У ГДК выступіў яшчэ ў двух абрадах, якія запрэзентаваў бельскі хор «Васілёчкі».

— Я ўжо чарговы раз выступала ў ролі вясельнай маладой. Ведаю, што гэта толькі прадстаўленне, але эмоцыі ёсць, так як і адчуванне як можа быць, калі прыйдзецца выходзіць замуж. Хацела б я на сваім вяселлі захаваць хаця частку вясельных абрадаў, якія прэзентуем з «Антрактам», бо гэта частка жыцця нашых продкаў, якую мы павінны захоўваць дзеля памяці аб іх, — сказала Паўліна Нямыйская з «Антракта».



«Асенні ліст» з Гарадка

Калектыў «Жэўжыкі» з бельскай «тройкі», якім апякуецца Анна Фіёнік, не змог прыехаць на цэнтральны агляд, але ўдала паказаў раней «Каравайны абрад», між іншым на сцэне Бельскага дома культуры. Не даехаў у Гайнаўку таксама калектыў «Рассняваны Гарадок» з Гарадка, які падчас раённага агляду прэзентаваў абрад «Бяленне кужалю», падрыхтаваны пад наглядам Анны Казбэрук. Затое на сцэне цікава выступілі дзеткі з калектыву «Ластаўка» Вясковага дома культуры ў Рыбалах з абрадам «Дзіцячыя гульні», якіх да выступаў падрыхтавала Лідзія Мартынюк.

— Я цешуся, што дзеткі з Рыбалаў хочуць развучваць нашы традыцыі і прэзентаваць іх на сцэне. Ахвотна займаюцца яны падчас рэпетыцый. Сёння паказваем даўнія беларускія танцы, песні і гульні, якімі весяліліся вясковыя дзеткі і моладзь. Усё спалучана ў абрад, які паказвае, як гулялі дзеткі, калі па вёсках не было яшчэ радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, — заявіла Лідзія Мартынюк, апякунка дзіцячага калектыву «Ластаўка».

Калектыў Школьна-Прадшкольнага комплексу ў Нарве падрыхтаваўся да выступаў з дапамогай настаўніцы беларускай мовы Ніны Абрамюк. Запрэзентаваў ён абрад «Як Яшка стаў чалавекам».

— Наш абрад павучальны, бо паказвае як жонка, якая з'яўляецца солтысам, навучыла Яшку спраўляцца з сямейнымі абавязкамі і пераадольваць жыццёвыя цяжкасці. У нашым прадстаўленні перш за ўсё выступаюць асобы, якія раней не выступалі на сцэне і я рада іх актыўнасці і ангажаванасці, — сказала настаўніца Ніна Абрамюк.

Нарваўскія вучні пацвердзілі, што яны толькі вучацца выступаць на сцэне і былі рады, што маглі паказваць абрадавую сцэнку перад шматлюднай публікай. Ім спадабалася таксама выступленне моладзі з калектыву «Званкі», якая займаецца ў Гайнаўскім доме культуры пад наглядам Веры Масайла. Запрэзентавалі яны прадстаўленне, падрыхтаванае на падставе аўтэнтычнага аповеду старэнькай жанчыны.

— Гэта здарылася адразу пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Хлопец і дзяўчына палюбілі адзін аднаго, але бацькі дзяўчыны знайшлі ёй іншага прыгожага і *спакойнага* жаніха. Дзяўчына рашылася выйсці замуж за прапанаванага бацькамі хлопца і ўцячы ад яго са сваім каханым, што і зрабіла, — патлумачыла Вера Масайла. — Каб адмяніць выезд маладых *бунтаўшчыкоў* у Савецкі Саюз, бацькі перадавалі запіскі ў царквы, каб там святары маліліся за вяртанне дзяўчыны да свайго мужа і звярнуліся за дапамогай да асоб, якія займаліся замовамі. Развязка была такая, што няверная жонка вярнулася да мужа, стала яго кахаць і нараджаць яму дзетак.

Вучні Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, якія састаўляюць асноўную частку членаў калектыву «Званкі» і іх сябры цікава запрэзентаваліся на сцэне. Асаблівай увагі заслугоўвае багатае сцэнічнае афармленне прадстаўлення і багатая колішняя вопратка, у якой выступаюць таксама дзеткі з бельскіх калектываў. Вучні з калектыву «Званкі», сказалі, што цікава ім займацца ў ГДК са спадарыняй Масайла, якая знаёміць іх з многімі традыцыямі, што ў калектыве пануе вельмі добрая, сяброўская атмасфера.

Калектыў Універсітэта трэцяга веку з Бельска-Падляшскага ўмела запрэзентаваў абрад «Гуканне вясны».

— Я знайшла песні–вяснянкі і на падставе іх зместу падрыхтавала сцэнарый абраду «Гуканне вясны». Пасля Вялікадня ў нашых вёсках спявалі агулькі і калі сёлы былі распалажаны непадалёк ад сябе, то моладзь нават перакліквалася паміж сабой, спяваючы веснавыя песні, — сказала Тамара Русачык, старшыня Універсітэта трэцяга веку ў Бельску-Падляшскім.

З бельскага хору «Васілёчкі» былі вылучаны дзве абрадавыя групы, якія займальна запрэзентаваліся перад гайнаўскай публікай.

— У «Васілёчках» спявае многа асоб і мы раздзяліліся на дзве групы. Я напісала сцэнарый для абедзвюх груп і была рэжысёрам абедзвюх пастановак. Кансультавалася з Валянцінай Марціновіч з Краснага Сяла, якая добра ведае наша абрадавае мінулае. Трэба было размеркаваць, што паасобныя акцёры будуць рабіць на сцэне падчас «Шаткавання капусты», бо такі абрад мы падрыхтавалі. Абрад «Хрысціны» гэта іншага роду абрад, які паказвае як весяліліся нашы продкі. Мы разлічваем, што нашы абрады не загінуць і будуць прэзентавацца таксама ў будучыні цяперашняй моладдзю, — распавядала арганізацыйны кіраўнік хору «Васілёчкі» Ніна Бялецкая.

Калектыў «Асенні ліст» з Гарадка, якім кіруе Галена Бура, выступіў з абрадам «Дажынкі», які для старэйшага пакалення з'яўляецца агульнавядомым, але крыху розніцца ў розных рэгіёнах Беласточчыны. На гэтыя адметнасці звярнулі ўвагу акцёры з Гарадка, якія выйшлі на сцэну з сярпамі і збожжам у руках. Калектыў «Каліна» з Залук, якога кіраўніком з'яўляецца Марыянна Апановіч, цікава паказаў «Велікоднае снеданне».

— У нас з больш аддаленых вёсак асвяцыць велікодныя харчы ездзілі ў прыхадскую царкву ў Каралёвы Мост, куды трэба было дабрацца яшчэ перад усяночнай багаслужбай. Пасля літургіі нашы бацькі вярталіся дамоў і спачатку ішлі паіць і карміць жывёлу, а таксама даіць кароў. Толькі пасля сядалі снедаць, што мы і прэзентуем. У мінулым годзе мы паказвалі «Хрысціны», падчас якіх трэба было звяртаць увагу на розныя асаблівасці, — сказала Галіна Парфянюк-Дробат з Залук. Яе сяброўка Зінаіда Мойсак прыгадала, што калі хросныя бацькі везлі яе ў царкву ахрысціць, то забыліся імя Ірэна, якім хацелі яе назваць бацькі. У выніку назвалі яе так, як называлася яе хросная маці, Зінкай.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Новыя інвестыцыі ў Міхалоўскай гміне

Зараз у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета будуюць, між іншым, санітарную каналізацыю ў адносна вялікай вёсцы Новая Воля (налічвае яна 290 жыхароў) ды вуліцу Загуменную ў сяле Саколе (190 жыхароў).

За грошы з салэцкага фонду запланавалі пабудаваць святліцу ў Патоцы (58 жыхароў), пляцоўкі для дзіцячых гульняў у Міхалове, Новай Волі, Юшкавым Грудзе і Тапалянах, спортпляцоўку ў Юшкавым Грудзе, альтанкі ў Бахурах, Навасадах, Шымках, Цісоўцы і Жэдні ды ўзвесці прыстрэшак і добраўпарадкаваць парк у Ялоўцы (гэта таксама вялікая вёска — 245 жыхароў).

Дарогі будуць рамантаваць (вазіць жвір і яго выраўноўваць) у Залешанах, Цiванюках, Навасадах, Плянтах і ў Сушчы — будуць гэта дарогі перш-наперш на бліжэйшыя ад вёсак сенажаці.

## Чаму так?

Ваяводская дарога № 687 бяжыць з Навасадаў каля Гайнаўкі ў Юшкаў Груд цераз Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны. У пачатку кастрычніка гэтага года рамантавалі яе маставую на невялікім адрэзку з напрамку Бандароў у Новае Ляўкова. Адрэзак артэрыі, які рамантавалі, не быў такі ўхабісты як у Новым Ляўкове ў напрамку Плянты.

На адрэзку дрэннай маставой ваяводскай дарогі ад моста на рачулцы Баброўцы ў Новым Ляўкове да чыгункі (з Гайнаўкі ў Семяноўку) у Плянце стаялі папераджальныя дарожныя знакі. Цяпер іх забралі і з'ехалі. Моў, хопіць трывожыць шафёраў, як было гэта вясной і летам. Я ўсё меў надзею, што гэтай восенню вышэйзгаданы адрэзак маставой Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку адрамантуе як след. Але ж — мне прыкра пра гэта пісаць — не атрымалася. На дарогі на г.зв. прыгранічнай Усходняй сцяне грошай не даюць, нават на ваяводскую дарогу. Вось на дарогу ў Цехановец то так. Бо, як мне сказалі добра паінфармаваныя, адтуль родам маршалак нашага ваяводства.

## Дрэнная дарога і безадказнасць

Ухабісты адрэзак асфальтавай дарогі бяжыць ад ваяводскай шашы № 687 побач чыгункі да былога вакзала і магазінаў ГС у вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны. Тут небяспечна ехаць. Зараз восенню часта падаюць дажджы і на дарозе стаяць глыбокія лужы. Апрача таго на разрушчанай маставой залягае чорная балоцістая гразь. Слізка. 20 верасня гэтага года ў гэтай справе пайшло пісьмо войта Нараўчанскай гміны да прадпрыемства нерухомай маёмасці ПКП С.А. у Беластоку, да якога належыць вышэйзгаданая дарога.

Мінулі тры месяцы ад высылкі пісьма, а зруху з боку беластоцкіх чыгуначных улад ніякага. Адказныя чыноўнікі, мабыць, чакаюць марозу, калі ён скуе лужы і балота. Адказаць на службовае пісьмо ПКП павінна было на працягу аднаго месяца. Па ўсім відаць, што на чыгунцы не трымаюцца абавязваючых правіл. Адсюль менавіта бярэцца тая безадказнасць. На адказ і дзейсны пачын чакаюць войт, радны і жыхары Плянты (тут пражывае 154 чалавекі).

Не дарам людзі кажуць, што польская чыгунка гэта дзяржава ў дзяржаве. З ёю не выйграеш. (яц)

# Беларускае гістарычнае таварыства выступіла з заявай у справе Тарашкевіча

Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы выступіла з заявай, у якой выказвае занепакоенасць тым, што Інстытут нацыянальнай памяці прызнаў Браніслава Тарашкевіча асобай, якая не вартая быць патронам адной з вуліц у Бельску-Падляшскім, а таксама патронам ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Бельску-Падляшскім. Як адзначае старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак, палітычная дзейнасць Браніслава Тарашкевіча — вядомая. Найбольшай таямніцай застаецца сапраўдная дата ягонай смерці і спосаб, у які гэта выканалі карнікі з НКВД.



**Алег Латышонак:** — Мы, як Беларускае гістарычнае таварыства, чакалі нейкі час канкрэтнага абгрунтавання рашэння Інстытута нацыянальнай памяці, але, паколькі з боку ІНП не паступае ніякіх лістоў, а з выказванняў у СМІ і старшыні Шарэка і доктара Коркуця мы разумеем, што яны карысталіся толькі агульнавядомымі звесткамі з жыцця Тарашкевіча, дык мы вырашылі, што не будзем адкладаць свайё заявы і адклікаемся да найважнейшага. А найважнейшае паводле нас, гэта тое, што закон пра дэкамунізацыю не адносіцца да Браніслава Тарашкевіча. У законе гаворыцца даволі ясна, для нас прынамсі, што трэба прыбраць як патронаў вуліц і падобных аб'ектаў асобы, якія з'яўляюцца сімвалам камунізму, ці нейкай іншай таталітарнай сістэмы. Калі гаварыць пра Тарашкевіча, дык ён, вядома, быў сябрам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, але гэта яшчэ не робіць яго сімвалам камунізму. Ён проста на нейкім палітычным этапе палічыў карысным для беларускай справы супрацу з камунізмам, але трэба сказаць, што для беларусаў ён ніколі не быў сімвалам камунізму. І нават для савецкіх камуністаў ён не быў такім сімвалам, паколькі яны не дазвалялі стварыць музей у Радашковічах, хоць там быў дом, сям'я прасіла. Для саветаў ён заўсёды быў проста беларускім нацыяналістам, за што яны яго і знішчылі. У Польскай Народнай Рэспубліцы вельмі доўга не дазвалялі даследчыцы Аляксандры Бергман, якая пісала пра Браніслава Тарашкевіча, публікаваць. З вялікімі цяжкасцямі і толькі таму, што яна была заслужанай камуністычнай дзяячкай, ёй дазволілі апублікаваць працы пра Браніслава Тарашкевіча. Таксама яго лічылі не сваім. Такім чынам для беларусаў Тарашкевіч як асоба з'яўляецца сімвалам, але перш за ўсё культурнай працы на карысць свайго народа. Гэта аўтар «Беларускай граматыкі для школ», гэта чалавек, які змагаўся за беларускую справу парламенцкім шляхам у Другой Рэчы Паспалітай, гэта чалавек чый лёс сімвалізуе лёс беларускай інтэлігенцыі, якая загінула ў часы камуністычнага тэрору.

**Радыё Рацыя:** — Старшыня ІНП сказаў, што дзеля вырашэння гэтага пытання, звязанага з Браніславам Тарашкевічам, магчыма зладзіць сустрэчу беларускіх і польскіх гісторыкаў. Як Вы лічыце, ці такая сустрэча яшчэ ў нечым дапаможа ў гэтым пытанні?

**Алег Латышонак:** — Сустракацца і гаварыць заўсёды варта, але трэба сказаць, што на мой погляд старшыня Шарэк меў на ўвазе гісторыкаў з Рэспублікі Беларусь, паколькі тыдзень таму ён быў у Беластоку і ніякай спробы кантакту з Беларускім гістарычным таварыствам у Польшчы з ягонага боку не было. Калі нехта прапануе нам такую сустрэчу, мы вядома прымем удзел у ёй.

**РР:** — Рашэнне адносна адмены і назвы вуліцы пакуль адкладзенае на нейкі час. Ці гэта дае нейкія магчымасці, каб змагацца?

**Алег Латышонак:** — Безумоўна. Паколькі гэта ўжо нейкі крок, ужо бачна, што па той бок ёсць нейкія сумневы: ці добра зрабілі. Хоць можа гэта толькі, каб лепш абгрунтаваць. Я не ведаю. Толькі думаю, што ўсё ж гэта сведчыць пра тое, што хтосьці хоча падумаць над гэтым пытаннем і лічу гэта ўжо нейкім поспехам у гэтай вельмі цяжкай справе.

29 лістапада 1938 года — афіцыйная дата расстрэлу Браніслава Тарашкевіча ў менскай турме НКВД. Паводле некатарых гісторыкаў Браніслаў Тарашкевіч загінуў падчас катаванняў, якія доўжыліся ажно дзевяць месяцаў. Напярэдадні дэпутаты гарадской Рады ў Бельску-Падляшскім прынялі рашэнне захаваць вуліцу Браніслава Тарашкевіча. Як мы ўжо паведамлялі раней, канчатковая дата дэкамунізацыі вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску падожана да сярэдзіны студзеня.

Гутарыла Анна ШАЙКОЎСКАЯ
Беларускае Радыё Рацыя

---

Беласток, 28 лістапада 2017 г.

Беларускае гістарычнае таварыства
вул. Пралетарыяцкая, 11
15-449 Беласток
э-мейл: bzh@neostrada.pl
тэл./факс 85 7 446 111

### Заява Беларускага гістарычнага таварыства

Беларускае гістарычнае таварыства выказвае глыбокую занепакоенасць па прычыне прызнання Інстытутам нацыянальнай памяці асобы Браніслава Тарашкевіча нягодным быць патронам адной з вуліц у Бельску-Падляшскім. Браніслаў Тарашкевіч да таго з'яўляецца таксама патронам ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім.

Палітычная біяграфія Браніслава Тарашкевіча даволі добра вядомая, хаця надалей скрывае не адну таямніцу. Самай вялікай застаецца сапраўдная дата яго смерці і спосаб, у які ўчынілі гэта НКУС. Афіцыйна быў ён расстраляны 29 лістапада 1938 года, аднак маюцца сур'ёзныя прычыны падазраваць, што быў ён закатаваны ў турме.

Цяжка ставіць пад сумнеў рашэнне, калі яго абгрунтаванне надалей застаецца неабнародаваным. Хочам аднак звярнуць увагу на тое, што ў адпаведнасці з Законам ад 1 красавіка 2016 г. аб забароне прапагандавання камунізму або іншага таталітарнага ладу ў выглядзе назваў будынкаў, аб'ектаў і ўстаноў грамадскага карыстання: «арт. 1. 1. Назвы будынкаў, аб'ектаў і ўстаноў грамадскага карыстання, у тым ліку дарог, вуліц, мастоў і пляцоў, прысвойваных адзінкамі тэрытарыяльнага самаўрада не могуць увекавечваць асоб, арганізацый, здарэнняў або дат, якія сімвалізуюць камунізм або іншы таталітарны лад, ані ў іншы спосаб такі лад прапагандаваць».

Мы цвёрда ўпэўнены, што закон не тычыцца асобы Браніслава Тарашкевіча, паколькі нікому і ніколі не сімвалізаваў ён і не сімвалізуе камунізму. Для беларусаў Тарашкевіч быў і застанецца аўтарам першай «Беларускай граматыкі для школ», сімвалам змагання палітычнымі метадамі за грамадзянскія правы беларусаў у ІІ Рэчы Паспалітай, за свабоду народа, а ўрэшце сімвалам трагічнага лёсу беларускай інтэлігенцыі, якая стала ахвярай камуністычнага тэрору.

---

### Становішча Гарадской Рады Бельска-Падляшскага

Захаваць вуліцу Браніслава Тарашкевіча — такое становішча прынялі бельскія дэпутаты 28 лістапада, на 38-й сесіі Гарадской рады Бельска-Падляшскага. 12 радных прагаласавалі „за", адзін быў „супраць", 6 — „устрымалася". Кажа старшыня Гарадской рады Ігар Лукашук:

— У адказ на карэспандэнцыю, якую Рада горада атрымала ад ваяводы, радныя прынялі рашэнне, што мы мусім захаваць у Бельску-Падляшскім назву вуліцы Браніслава Тарашкевіча пры змене матывацыі прысваення гэтай жа назвы вуліцы. Падляшскі ваявода накіраваў у Бельск-Падляшскі абноўлены спіс вуліц, прызначаных да дэкамунізацыі, у якім ёсць вуліца Тарашкевіча. Бургамістр горада Яраслаў Бароўскі ў адказ накіраваў ліст, у якім аргументаваў, што гэта дрэннае рашэнне. Падляшскі ваявода павінен прыняць адпаведнае рашэнне да 2 снежня.

Давід ГАЙКО
Беларускае Радыё Рацыя

# Шлях экспрэсіі

Стала адным з жывых доказаў вяртання на сцэну «Бардаўскай восені» голасу Падляшша. Гледзячы на тры апошнія выпускі фестывалю, акрамя выканаўцаў такіх як «Хахлакі», «David Szymczuk Band», дуэту «Перцэпцыя» ды Кацярыны Хмур, таксама яна сваім вакалам ды гітарай узбагаціла конкурсную частку «бардаў», зрэшты, становячыся яе лаўрэаткай.

**Анна Бяляўская** — вось менавіта гэтай музыканткі родам з Нараўкі тычацца вышэйпрыведзеныя словы, атрымала на фестывалі ўзнагароду аб'яднання «Бельская кааліцыя». Неўзабаве для яе стала ясна, што творчая дарога са спевам на вуснах і гітарай у руцэ вартая таго, каб па ёй крочыць, хаця непасрэдны кантакт з артызмам праяўляецца ў Анны таксама дзякуючы іншым галінам.



Фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА

— Заўсёды я марыла аб тым, каб спяваць і іграць на гітары. Аднак не адразу я рухалася ў гэтым напрамку. Таксама не адразу пачала я спяваць беларускі рэпертуар. Гэта пачалося са спявання ў Студыі эстраднай песні, якая працуе пры Гайнаўскім доме культуры. Мы прымалі ўдзел, між іншым, у фестывалі «Беларуская песня». Там вось наступіў першапачатковы сцэнічны кантакт з рэпертуарам. Пазней урэшце надышоў час прыгоды са спевам ды ігрой.

Вакал ды гітара гэта не адзіныя сродкі экспрэсіі нараўчанкі. Прыхільнікі падляшскага ды беларускага тэатра ведаюць яе з выступленняў у спектаклях, рэжысёркай якіх з'яўляецца Іаанна Троц з Тэатра «Чрэва». Падляшская публіка магла запомніць Анну як акцёрку з беларускай адаптацыі «Рамэа ды Джульеты». На беларускай мове быў таксама спектакль «Апошнія сведкі» — на аснове кнігі Святланы Алексіевіч. Зайграла яна таксама ў «Wylęgarni», дзе выносіцца праблема паталогіі ў сям'і. Кажучы пра музычную дзейнасць Анны, вялікі ўплыў на яе аказвае музыка-прафесіянал з Нараўкі Марцін Карпюк, якога ўспрымае як свайго самага важнага настаўніка. Як лічыць, яе мастацкія зацікаўленні, таксама ў музычным плане, праўдападобна вынесены з творчай сям'і — вядомая, між іншым, удзелам у Сустрэчах «Зоркі», яе дваюрадная сястра Магда Бяляўская піша вершы, а цёця Кацярына Бяляўская піша тэксты песень. Яна, дарэчы, напісала песню «Журналіст», якую, якраз з музыкай Марціна Карпюка, Анна выканала на сёлетняй «Бардаўскай восені»:

— Калі я шукала цікавы тэкст, мой выбар адносна хутка выпаў на творчасць Кацярыны. Я вырашыла, што крыху жартаўлівы «Журналіст» быў бы цікавым элементам майго выступлення на бардаўскай сцэне. Як другую песню праспявала ды зайграла я «Матулю», з якой выступае Зміцер Вайцюшкевіч. Так па шчырасці, гэта мой любімы твор. Увогуле як выканаўцу люблю Тодара — канешне, маю яго альбомы, прыглядаюся яго творчасці. Да таго яшчэ я прыхільніца песень, якія кранаюць за сэрца, дык я проста мусіла выбраць «Матулю». Своеасаблівым элементам нечаканасці быў факт, што сябрам журы конкурснай часткі «бардаў» аказаўся сам Вайцюшкевіч. Аднак я неяк не хвалявалася, гэта быў проста такі камічны факт.

Выступ Анны Бяляўскай у Бельскім доме культуры быў амаль што дэбютным. Раней можна было яе пачуць у гайнаўскім белліцэі, дзе і зараз вучыцца. Падчас штогадовага «Пікніка з беларусам» уразіла яна слухачоў сваім выкананнем песні Віктара Шалкевіча. Аднак выступленне на ўжо большай сцэне прынесла для яе «Бардаўская восень». Як аказваецца, ідэя прыняць удзел у фестывалі прыйшла адносна выпадкова ды нечакана.

— Аднойчы, калі я была ў школе, падышоў да мяне наш дырэктар Ігар Лукашук і проста запытаў ці я хацела б выступіць на бардаўскай сцэне. Я не адказала «не», але адначасова сцвердзіла, што трэба мне аб гэтым падумаць. Вядома, што на такую падзею варта падрыхтавацца з адпаведным рэпертуарам. Але ўрэшце я падабрала рэпертуар і вырашыла, што варта паспрабаваць сваіх сіл. Перад выхадам на сцэну я хвалявалася, паколькі перад сабой мела сваё першае настолькі сур'ёзнае музычнае ды вакальнае выкананне.

Умеласці Анны дацанілі і гледачы фестывалю. Разам з Кацярынай Хмур з Бельска-Падляшскага пасля выступлення ў конкурснай частцы маладая нараўчанка атрымала ўзнагароду аб'яднання «Бельская кааліцыя».

— Я нават не падазравала, што мне хтосьці падчас фестывалю якім-небудзь чынам вылучыць, узнагародзіць. Увогуле, само стаўленне перад выхадам на сцэну было цалкам іншае. Я проста хацела зайграць перш за ўсе для сябе, каб для самой сябе гэты, скажам, міні-канцэрт атрымаўся паспяховым, якасным. Калі стала вядома, што ўзнагарода патрапіла таксама да мяне, гэта, зразумела, быў адзін з самых прыемных момантаў падчас маёй пакуль што нядоўгай дзейнасці на сцэне з гітарай і спевам.

Несумненна, фестываль бардаўскай ды аўтарскай песні стаў для Анны Бяляўскай пераломным момантам. Менавіта выкананне дзвюх конкурсных песень прыблізіла маладую вакалістку ды гітарыстку да крышталізацыі погляду пра яе далейшую мастацкую дарогу.

— Увогуле для мяне спяванне, ігра гэта быццам такая метафізічная сіла, нешта такое, што мае вялікую моц уздзейнічання на душу і якое душу ды сэрца чалавека проста адкрывае. Тады, вядома, можна адлюстраваць самую сябе, свае ўнутраныя адчуванні, таксама адчуванні на тэму свету. А пасля «Бардаўскай восені» я проста зразумела, што гэта якраз «тое», што бардаўская песня гэта напрамак, у якім я хацела б працаваць, функцыянаваць. Не выключаю, што з таго паўстануць і мае прэм'ерныя песні. Аднак зараз лічу, што крыху зарана, каб казаць пра нейкія ўдакладненыя планы. Але ёсць напэўна іншыя, таксама звязаныя з мастацтвам. Вядома, хачу здаць экзамен на атэстат сталасці, затым падаць заяўку ў Тэатральную акадэмію.

Гледзячы на сціплую, ды адначасова вясёлую асобу, можа ўзнікнуць рэфлексія ў стылі «свет можа пра яе яшчэ пачуць». Пытанне засяроджваецца толькі ў тым, якім фактычна чынам ды ў якім напрамку накіруе яна свае жыццёвыя крокі, дзе ёсць адпаведны шлях экспрэсіі. Бо ці наогул подых свежасці ды маладосці (Анне зараз 18 гадоў) на якой-небудзь, а тут беларускай, музычнай сцэне не можа стаць адначасова надзеяй на зноў чаканы пералом?

**Мацей РАЦІНЕЎСКІ**



# Успаміны на прыпынку

Аўтобусны прыпынак, калі чакаем аўтобуса, вельмі часта становіцца месцам кароткай гутаркі са знаёмым, а таксама і з незнаёмым. Ведаючы, хто якога аўтобуса чакае, можна дадумацца, ці гэта чалавек «свой», а тады размова можа стаць больш шчырай. 2 верасня 2017 года ў Бельску, на аўтобусным прыпынку побач Міхайлаўскай царквы, адкуль адыходзяць аўтобусы ў напрамку Беластока, Гайнаўкі і Орлі, спаткаў я спадара Аляксандра Карольку, 1933 года нараджэння, пенсіянера з Ласінскага прыхода. Слова па слове і ён заявіў: «Калі ты пішаш у «Ніву», то я табе нешта раскажу...».

Было гэта зараз пасля Другой сусветнай вайны. А расказаў мне гэта чалавек з Крыніцы. Паехаў ён санямі зімой у Гайнаўку змалоць збожжа ў Шумскага. І малоў там аж да поўначы. Вярнуўся на панадворак, адкрыў дзверы ў клуню, а конь не хоча ісці, адно храпе. «Хто тут ёсць? — спытаў. — Зараз вазьму вілы і буду шукаць у сене». Адазвалася маладая жанчына: «Дзядзьку, то мы, дзяўчыны. Нас тры; мы ўцяклі цераз граніцу ад рускіх. Хацелі нагрэцца, усё было закрыта, то мы ў вашу клуню, у сена залезлі. Вы нас адвязіце адсюль». Аж плачуць, просяць каб зараз. То гаспадар з тым грузам завярнуў каня і падвёз іх пад Ласінку, пад царкву.

Гаспадар вярнуўся дамоў, выпраг каня, напаіў і ўвайшоў у хату, стаў есці. А тут грукат у акно: «Хазяін, адкрой! Эта мы, пагранічнікі». Мелі вайсковага сабаку і той сабака скача каля таго месца, дзе былі жанчыны — на сані. Кажуць: «Адвёз!?» А той не прызнаўся. «Ну, калі б сабака ўмеў гаварыць, то ты на Сібіры пахадзіў бы з дзесяць гадоў!» І столькі.

А тыя жанчыны, як самі прызналіся гаспадару, былі ў Германіі на прымусовых работах і гналі адтуль у Расію кароў; і ўцяклі.

— Адзін з Кляшчэляў расказваў мне, — прадаўжаў спадар餐 Каролька, — быў на прымусовых работах і прызнаўся пра гэта саветам — то яшчэ дзесяць гадоў працаваў для рускіх. А іншага не адпускалі ў Польшчу, не адпускалі, і не пусцілі зусім.

— А як было ў вайну ў Вашай вёсцы? — пытаю.

— Немцы прыехалі на конях. Шэсць коней цягнула адну гармату. Коні былі амерыканскія, такія здаравяцкія. Коней паставілі па садах, у брызентавыя торбы сыпалі авёс і лілі ваду. Пасля, як саветы недалёка былі, то з тых гармат стралялі па Нараўцы. Спярша папярэдзілі нашых людзей, каб паадчынялі вокны...

Ці былі ў вас яўрэі? Быў толькі адзін, кравец. А ў Рэпісках жыў яўрэй з сястрой. То адзін з нашых людзей ажаніўся з ёю. Пасля немцы яе забралі, а яму нічога.

Школа? Хадзіў у Ласінку, закончыў толькі чатыры класы і трэба было працаваць, — завяршыў размову, сядаючы ў аўтобус.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Нядаўна выйшаў у свет паэтычны том **Міры Лукшы «Спеў Дрэў».** У ім 42 вершы і малюнкі мастака Міраслава Здрайкоўскага. Усе гэтыя творы былі напісаны для «Зоркі» і друкаваліся на нашых старонках у 2015-2017 гадах. Сёння вашай увазе прапануем гутарку з аўтаркай, якая, як пушчанскі чалавек, спеў дрэў мае ў крыві.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Дрэвы жывыя!

**Зорка:** — *Напачатку чарадзейнае пытанне. Ці ў час, калі ўзнікалі вершы, Вы кантактавалі з дрэвамі?*

**Міра Лукша:** — Так!

**З:** — *А як?*

**МЛ:** — Калі я хадзіла ў школу з вёскі Баравыя ў Семяноўку, па дарозе раслі розныя дрэвы. Яны спявалі і шумелі, і гэта асталося па сённяшні дзень. Гэтыя дрэвы ўвесь час шумяць і спяваюць. Дрэвы жывуць і спяваюць зімой і летам, удзень і ўночы. І ўвесь час яны растуць разам з намі... І мы таксама, хоць менш вечныя за іх, таксама расцем з дрэвамі...

**З:** — *Калісь, калі нараджалася дзіця, бацькі садзілі дрэва. Яны верылі, што дрэва будзе дапамагаць і ахоўваць чалавека ў жыцці. Ці для Вас пасадзілі такое сястрынае дрэва?*

**МЛ:** — Няма ў мяне такога дрэва, але ёсць дуб, які я сама пасадзіла. Калі мне было дзесяць гадоў, я падумала, каб пасадзіць сваё дрэва. А ў нашай хваіне рос надта стары дуб, ён быў шмат разоў падпалены і ўжо паміраў. Я ўзяла ад яго жолуд і пасадзіла. І ён расце. Майму дубу ўжо паўвека!

**З:** — *Ці ў Вашай кніжцы таксама дрэвы з роднага садка, панадворка?*

**МЛ:** — Мой дзедка Іван пасадзіў садок, і хоць яго ўжо даўно няма ў жывых, дрэвы растуць і далей пладаносяць. Гэта яблыні і вельмі густы чарнасліў, на якім вельмі многа слівак. У кніжцы ёсць менавіта яблыня. Яна хоць старэнькая, пакарабачаная, абымшэлая, родзіць маладзільныя яблыкі. Той хто іх з'есць — памаладзее.

Адкуль я гэта ведаю? Калі ў чалавека шмат думак і творчых роздумаў, якія сягаюць у глыб часу, тады нешта больш разумееш. Я адкрыла, што гэтыя яблыкі незвычайныя. Я нават не ведаю як называецца гэты сорт яблыні, але яны маюць выгляд быццам памалявалі іх пэндзлікам у чырвоныя палосачкі. Яны духмяныя і смачныя. І ў іх чарадзейная моц, — калі з'ясі гэты яблык, напэўна памаладзееш...




**З:** — *О-го! Гэта як у песні! Дарэчы, у беларусаў шмат песень пра дрэвы, а ў Вас наадварот — спяваюць дрэвы. Падкажыце, як пачуць гэты спеў?*

**МЛ:** — Я памятаю як у дзяцінстве заслухалася ў пошум старых ліп. Шум лістоў спалучаўся з фыркannем птушак і рознагалосым свістам шпакоў. Разам іграў вецер ад Белавежскай пушчы. Навокал разносіўся пах і гэта была такая поўня адчування смаку, слыху і дотыку таксама. Гэты спеў быў адчуваннем поўні і шчасця.

**З:** — *Дрэвы Міры Лукшы кормяць, лечаць, ратуюць ад бяды і пагрозы...*

**МЛ:** — Мы наогул не думаем пра карысці, якія даюць нам дрэвы. А вось, калі нас баліць сэрца, мы купляем у аптэцы глог, і не думаем, дзе і калі ён вырас, якія птушкі спявалі яму пры квітненні. Нас цікавіць глог як сродак, які дапамагае ў лекаванні.

У кніжцы спасылаюся на гісторыю і міф дрэва ў нашай культуры. Дрэвы — частка свядомасці беларусаў. У вершах не толькі мае эмоцыі, але і канкрэтныя веды, народныя павер'і, а нават чары... Кожны нешта для сябе знойдзе і засвоіць.

**З:** — *Якія веды засвояць дзеці?*

**МЛ:** — Я спадзяюся, што дзеці адчуюць не толькі мелодыю дрэў, але і мелодыю беларускай мовы. Што яны адчуюць наша братэрства і залежнасць, глянуць інакш на дрэвы, а можа іх нават палюбяць. Дарослыя, апрача практычных ведаў, знойдуць нешта гаючае для душы. Дрэвы жывыя, яны падлягаюць усім тым правам натуры, што і людзі. Яны размаўляюць з іншымі дрэвамі, дапамагаюць сабе ў бядзе, супрацоўнічаюць.

**З:** — *Што думаеце пра бяздумную высечку дрэў?*

**МЛ:** — Дрывасекі часта тлумачаць тым, што гэтыя дрэвы хворыя, таму трэба іх секчы. Тут трэба падумаць. Ці калі захварэе чалавек — мы таксама павінны яго забіваць? Мёртвае дрэва таксама патрэбнае ў лесе, яно дае жыццё сотням іншых стварэнняў.

**З:** — *У кніжцы ўсе падляшскія дрэвы. А самыя родныя, гэта...?*

**МЛ:** — Дуб і сасна. Дарэчы, я згадваю пра таполю — яна ачышчае паветра як чатыры елкі. Хачу яшчэ звярнуць увагу на ясень. Ясень — вечнае дрэва, на якім сядзяць разумныя птахі і якія спалучаюць тое, што пад зямлёй і на зямлі. Важна, каб адчуць тую залежнасць, што дзякуючы дрэвам мы можам дыхаць і жыць.

Мне хацелася б яшчэ, каб чытач заспяваў разам з нашымі дрэвамі.

**З:** — *Дзякуем за размову і віншуем з прыгожай кнігай!*

Лукаш АНХІМ
ПШ у Міхалове

## Мой сабака

Сабака ноччу сцеражэ наш дом.
Мы спім, а ён — не.
Лічыць зоркі.
Сядзіць на траве, верны.
Месяц свеціць.
Спяць дарослыя і дзеці.
Часам лятучая мыш праляціць.
Ночка міне, сонца засвеціць.
Пойдуць у школу дзеці.
Мой друг сабака
Падасць мне лапу,
Калі вярнуся дахаты.

Сільвія ГРЫКА
КШ у Міхалове

## Зоркі, зорачкі

Сінія, белыя, жоўтыя і залатыя
Падаюць, калі маюць ахвоту.
Розныя размеры маюць,
Узімку бель нам падсыпаюць.
Свецяць і ноччу.
У час Каляд залаты колер маюць.
А калі восеньская пара доўгая,
На дварэ шарэ,
Тады наша радзіма
Зоркамі святлее.



Ніл Гілевіч

## Снежны дзед

Колькі шуму, колькі смеху:
Дзеда лепім мы са снегу!
Задала зіма работы —
Па двары кацілі ўтрох
І паставілі ля плоту.
Дзед стаіць, хоць і без ног.
Замест рук уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.
Ну і дзед! Відаць, яму
Тут стаяць усю зіму.
Будзе ён тут па начах
Наганяць на зайцаў страх,
Каб не бегалі сюды
Сад псаваць наш малады!



Дзеці з Белавежы

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Арол

Арол прызваў усіх на птушыны сойм. Яны паабяцалі яму служыць, аднак агаварыліся, каб ён занадта не мяшаўся ў іх справы. Арол даў згоду і доўгі час жыў з птушкамі ў міры.

Але гэта пераелася птушкам. Сталі яны бунтавацца і кпіць з арла, ды нават падумалі, каб яго скінуць з каралеўскага прастола.

Верабей і той задаваў маху:

— Напаскуджу яму на галаву. Ад гэтага ён аслепне!

Шмат хто яшчэ з дробных птушак выпендрываўся, распавядаў, што яшчэ брыдкага можна зрабіць арлу…

І арол не сцярпеў, кінуўся на птушак і за адным махам многіх усмерціў.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 50-17

## Загадкі з роднай хаткі

**То ціхманы, то ўзнімаецца.**
**Не сабака, а кусаецца.**
**Паказвае языкі.**
**Адгадайце, хто такі?**
**А….**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 17 снежня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 47: мох.**

**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Зузя Сідарчук, Юлія Высоцкая, Клаўдзія Пень, Ася Нікіцюк з Бельска-Падляшскага, Аляксандра Іванюк, Юля Шкляжэўская, Мая Тапалянская з Нарвы, Мартына Барэвіч, Аляксандра Кудашэвіч з Бабік, Карнелія Надольная з Шудзялава, Габрыеля Красько, Зузанна Смалюк з Арэшкава. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 50-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 46-17:**

Воз, гул, розум, на, лес, малінавы, цыкл, улік, Еўропа. Хор, мыш, золак, зелле, гусі, сум, Нур, ало, віп, уладыка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аляксандра Аніськевіч**, **Віктар Лінк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Клаўдзія Скаласінская**, **Антаніна Кулеша**, **Вікторыя Антыпчук** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Марцін Галёнка**, **Аляксандра Хіліманюк** з Нарвы, **Наталля Главацкая** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Кінга Бах** з Шудзялава, **Гжэгаж Гопш** з Вэрстока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Sąsiad / Polana | | Zdanie / Sto | | | | |
| Wiąz / Prąd | | | | | | | | Kolęda / Jawa | |
| | Kapusta / Ślad | Słoń | | | Ola / Dyba | | | | Za / Arka |
| | Boże Narodzenie / Osa | | | | | Jawa | | | |
| | | | | | | Dar | | | |
| Sen / Panorama | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

**Браніслаў Тарашкевіч (1892-1938)** несумненна ўпісаўся ў гістарычную памяць беларусаў. Яго імя здаўна (пасля рэабілітацыі ў 1957 г.) знаходзіцца ў беларускіх энцыклапедыях. Біяграмы ў беларускай і польскай „Вікіпедыі" сведчаць пра яго прысутнасць таксама ў віртуальнай прасторы. Менавіта беларуская „Вікіпедыя" звяртае ўвагу на тое, што Браніслаў Тарашкевіч быў беларускім грамадска-палітычным дзеячам, мовазнаўцам і пісьменнікам-перакладчыкам. У польскай „Вікіпедыі" прадстаўляецца яго ў першую чаргу як беларускага палітыка, дэпутата польскага Сейма, старшыню Беларускага пасольскага гуртка, старшыню Беларускай сялянска-работніцкай грамады, грамадскага дзеяча, мовазнаўцу, перакладчыка, аднаго са стваральнікаў арфаграфіі беларускай мовы. Паказваюць яны шматграннасць зацікаўленняў і заняткаў Браніслава Тарашкевіча.



Лена ГЛАГОЎСКАЯ

# Ад беларускай граматыкі да палітыкі — Браніслаў Тарашкевіч у гістарычнай памяці (ч.II)

**(працяг з Ніва № 49)**

У Беларусі пра яго стала больш вядома толькі праз 20 гадоў — пасля 1956 г., калі 27 студзеня Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР перагледзела справу па абвінавачанні Б. А. Тарашкевіча і спыніла яе „з-за адсутнасці саставу злачынства". Тады і пачалося вывучэнне яго біяграфіі і розных дзялянак яго дзейнасці. Разам з палітычнай адлігай загаварылася і пра Браніслава Тарашкевіча, пры тым амаль аднačасова ў Беларусі і ў Польшчы. У 1964 г. пра першыя мінскія публікацыі пра яго згадала Аляксандра Бергман на старонках беластоцкай „Нівы". Да 1964 г. у Беларусі паказаліся ў друку артыкулы пра яго як аўтара беларускай граматыкі Льва Мірачыцкага, Арсеня Ліса і Барыса Клейна — пра яго грамадска-палітычную дзейнасць. Аляксандра Бергман звярнула ўвагу на align="left"рознабаковасць падыходу да жыцця і дзейнасці Браніслава Тарашкевіча: «Знаёмячыся з творчасцю Б. Тарашкевіча, з усёй яго дзейнасцю, біяграфіяй, нават сёння цяжка сказаць, што ў ім перамагала: вучоны, вялікі рэвалюцыйны дзеяч, аратар, публіцыст? (...) Публікацыі, якія з'явіліся ў Мінску ў апошнія гады, абапіраюцца на шырокія крыніцы, пачэрпнутыя з архіваў, больш шырокія, чым гэта было раней, калі да значнай часткі важных матэрыялаў амаль ніхто не меў доступу. І ў гэтым найбольшае значэнне апошніх публікацый».

У 60-я гады перамагла тэндэнцыя, каб паказваць Браніслава Тарашкевіча як беларускага гарамадска-палітычнага дзеяча (стваральніка і старшыню Беларускай сялянска-работніцкай грамады, пасла Сейма, вязня польскіх турмаў), а не як мовазнаўцу, у тым ліку аўтара беларускай граматыкі. Магчыма, абавязваючы БССРаўскі правапіс у навучанні беларускай мовы і ў беларускіх выданнях у Польшчы не спрыялі памяці Б. Тарашкевіча як мовазнаўцы і аўтара беларускай граматыкі.

У той час жыло яшчэ шмат людзей, якім Б. Тарашкевіч быў вядомай асобай, пра што пісаў Арсень Ліс, якога кніга „Браніслаў Тарашкевіч" выйшла друкам у Мінску ў 1966 г.: „Сярод старэйшых людзей у былой Заходняй Беларусі і сёння амаль не сустрэнеш чалавека, які б не ведаў імя Браніслава Тарашкевіча. Адны ўспамінаюць, што вывучалі родную мову па ягонай граматыцы, другім з даўніх год запала ў сэрца палымянае слова Тарашкевіча-дэпутата, сказанае ім на мітынгу, ці баявая антыўрадавая прамова ў польскім сейме, трэція сустракаліся з кіраўніком Беларускай сялянска-работніцкай грамады на суровых этапных шляхах панскіх астрогаў. Мужны і таленавіты абаронца інтарэсаў працоўных, выдатны арганізатар мас, вучоны-патрыёт, чалавек высокай культуры і абаяльнасці — такім быў слаўны сын беларускага народа Браніслаў Тарашкевіч, такім застаўся ён у памяці пакалення рэвалюцыйных барацьбітоў 20-30-х гадоў. Такім дораг ён нашчадкам". Пра гэтае выданне пісала ў „Ніве" Аляксандра Бергман.

Захапіўшыся феноменам БСРГ і заадно Б. Тарашкевічам, пра новыя знаходкі і распрацоўкі гэтай тэмы публікавала яна ў „Ніве" ды ў польскіх гістарычных часопісах. Шукала звесткі ў польскіх, беларускіх, літоўскіх і расейскіх архівах, шукала яго радні і знаёмых. Яшчэ ў 60-я гады пазнаёмілася м.інш. з яго першай і другой жонкамі, з вядомым беларускім паэтам Станіславам Шушкевічам, які сустрэў Б. Тарашкевіча ў 1937 г. у Мінскай турме, але на той час не смеў пра тое ёй сказаць. Толькі праз 24 гады, 8 сакавіка 1988 г., ён пісаў Аляксандры Бергман: „Пані была ў нас тады, калі нельга было казаць праўду і трэба было прыслухацца, ці няма каго за дзвярыма... Сядзеў у старой турме (у Мінску) у паўпадвальнай камеры. Было нас чацвёра. Адзін сярод нас быў польскі камуніст і ўмеў шляхам перастуквання перамаўляцца праз сцяну. Быў у камеры 15, а ў 16-й знаходзіўся Браніслаў Адамавіч (Тарашкевіч). Было гэта, наколькі помню, у пачатку чэрвеня 1937 года. Мы даведаліся, што Браніслаў прыйшоў увесь збіты. Сказаў, што не выжыве, што ўся яго бялізна ў крывавых плямах, што, здагадваецца, яго зноў павязуць у Маскву...".

Гэты прыклад паказвае, як мянялася грамадска-палітычная сітуацыя ў Савецкай Беларусі, у СССР — у 1988 г. была там „перастройка" і „гласнасць". Пачыналася гаварыць пра сталінскія рэпрэсіі, пачыналася беларускае нацыянальнае адраджэнне, вярталіся забытыя імёны беларускай гісторыі. Тады таксама ў 1990 г. у Беларусь вярнулася імя Францішка Аляхновіча, выдаліся яго творы, м.інш. „У кіцюрох ГПУ", у якім піша ён пра абмен на мяжы ў 1933 г. Загаварылася пра двух выдатных беларускіх дзеячаў як пра беларускі лёс у XX ст. А яшчэ Арсень Ліс у сваёй працы пра Б. Тарашкевіча не мог падаць прозвішча „абменніка".

Тым часам Браніслаў Тарашкевіч да гэтага часу існаваў ідэалагічна як грамадска-палітычны дзеяч, які змагаўся за правы працоўных Заходняй Беларусі і супраць палітыкі польскай дзяржавы.

Нягледзячы на ідэалогію, у 1968 г. у навуковы ўжытак уводзілася яго беларуская граматыка (у „Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" І. Крамко, А. Юрэвіч, А. Яновіч), праўда — як гісторыя беларускай мовы з адназначнай ацэнкай яе значнасці ў развіцці беларускай літаратурнай мовы: „Асобнае месца сярод першых спробаў выпрацоўкі нормаў беларускай літаратурнай мовы займае „Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча, першае выданне якой выйшла ў 1918 годзе. Яна прадстаўляе сабой першы і тым не менш вельмі ўдалы вопыт вылучэння асноўных заканамернасцяў беларускай мовы. Прапанаваная аўтарам фанетыка-граматычная сістэма беларускай мовы замацавалася як сістэма яе літаратурных нормаў. Граматыка Тарашкевіча на працягу 10 гадоў вытрымала 5 выданняў (апошняе, 5-е выданне 1929 г., значна перапрацоўнае і пашыранае), доўга заставалася адзіным па сутнасці стабільным вучэбным дапаможнікам, на аснове якога стварaліся ў далейшым новыя падручнікі, працы і даследаванні на беларускай мове. (...) Неабвержаным доказам правільнасці выбранага напрамку ў развіцці беларускай літаратурнай мовы служыць тое, што сучасная беларуская літаратурная мова адлюстроўвае ўсе галоўныя асаблівасці і нормы, вызначаныя ў свой час Тарашкевічам". Факсімільнае выданне „Беларускай граматыкі для школ" з 1929 г. выйшла толькі ў 1991 г. у Мінску. Раней гэта было немагчымае, перш за ўсё з-за таго, што беларуская эміграцыя ў выданні карысталіся „тарашкевіцай", а ў Беларусі абавязвала т.зв. „наркомаўка", уведзеная паводле рэформы правапісу ў 1933 г. Таксама беларускія незалежныя выданні („самвыдат") у Беларусі з канца 80-х гадоў пачалі карыстацца „тарашкевіцай".

Аляксандра Бергман у Польшчы з пасіяй збірала звесткі пра Браніслава Тарашкевіча і пісала пра іх у „Ніве". Таксама ў гэтым жа беларускім тыднёвіку беларусаў у Польшчы шмат месца адводзілася яму пры нагодзе юбілеяў з нагоды дня нараджэння. Уладзімір Паўлючук адшукаў яго сям'ю ў Польшчы. У першым адрэзку пісаў: „Аб Браніславе Тарашкевічу, кіраўніку аграмаднай 100-тысячнай беларускай арганізацыі — Грамады, ведаем параўнальна мала. Пакуль што нямнога знойдзена дакументаў, якія б паказвалі жыццё і дзейнасць гэтага вялікага змагара беларускага народа. Не прэтэндуючы да пісання біяграфіі гэтага беларускага рэвалюцыянера, хацеў бы расказаць аб Браніславу Тарашкевічу такім, якім рысуецца ён у памяці блізкіх яму асоб: сястры, швагра, хросьнага сына, вучаніцы". Сястра Тэкля з мужам Геранімам Янкоўскім жыла ў Эльблёнгу і наведаў іх У. Паўлючук у снежні 1965 г. Сястра звярнула ўвагу на рэлігійнасць брата, які, пасвячы свіней, насіў іконы і аддаваўся рэлігійным практыкам. Сям'я вырашыла, што павінен ён стаць ксяндзом і аддалі яго вучыцца. Але ён не хацеў быць ксяндзом. Г. Янкоўскі ўспамінаў візіты ў хаце Тарашкевічаў кс. Яна Семашкевіча: „Калі прысутныя падвыпілі, Тарашкевіч, пазіруючы ігру на скрыпцы і штурхаючы ксяндза локцем, пачаў прыпяваць: «Ой, каб ксёндз жонку меў, ані піў бы, ані еў, ані еў бы, ані спаў бы, толькі жонку цалаваў бы». Ксёндз заходзіў да бацькі і казаў яму: «Твой Бронцё пачаў рабіць нейкую рэвалюцыю ў сейме, каб ты ведаў, што ён там цяпер чапе. Ты пакрычы на яго, калі прыедзе, каб перастаў». А той казаў бацьку: «Якую там, бацька, рэвалюцыю. (...) Я толькі хачу, каб была на свеце справядлівасць. Навошта вось, для прыкладу, прысылаюць нам войтаў аж з Познані, ці ж у нас няма сваіх людзей добрых? Або паліцыянтаў? А навошта такую армію ўтрымліваць, падаткі на яе плаціць? Няхай дадуць людзям свабоду, тады і армія непатрэбная стане».

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, калі Тарашкевіч у канцы 1918 г. завітаў у родныя ваколіцы, сустрэўся з дваюрадным братам і хросным сынам, малодшым 16 гадоў, Пётрам Ганцэўскім, які жыў у вёсцы Вясёлая на Віленшчыне, 25 км ад Чарнулішак. У 1966 г. жыў ён у Кайкове каля Аструды і працаваў у мясцовым ГС. Быў у 1923 г. на вяселлі ў Тарашкевіча. Апошні раз П. Ганцэўскі бачыў Тарашкевіча на судзе ў Вільні, калі той „на пытанне аб месца жыхарства адказаў іранічна: турма, а на пытанне аб веравызнанні завіў горда: няверуючы". Б. Тарашкевіч адказваў брату на пытанне пра беларускую дзяржаўнасць: „Будзем мець, але толькі тады, калі будзем мець многа адукаваных людзей. Без адукацыі нічога не створым".

У. Паўлючук знайшоў таксама і яго вучаніцу Надзею Касову, настаўніцу біялогіі ў школе № 5 у Аструдзе: „Браніслаў Тарашкевіч належаў да людзей, якіх усе любяць. І мы яго любілі. На школьных урачыстасцях знаходзіўся ён заўсёды ў кругу разрадаванай, вясёлай моладзі, чалавек надзвычай дабрадушны з нягаснучай усмешкай на вуснах. Вучні беларускай гімназіі нідзе раней беларускай мовы не вучыліся, ведалі яны толькі віленскі беларускі дыялект, у якім параўнальна многа паланізмаў. Тарашкевіч не здаваўся, з гэтай жа дабрадушлівай ухмылкай цярпліва выпраўляў моўныя недахопы вучняў. Кніжак да навучання беларускай мовы амаль не было. Тарашкевіч найчасцей прыносіў з сабою кніжкі з хаты, вучні чыталі іх на ўроках, часта бралі з сабою дадому. Чыталі вершы Купалы, Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў. Часта Тарашкевіч чытаў вучням свае вершы проста са сшыткаў. Слухаючы ўспамінаў Надзеі Касовай аб дабрадушнасці, спакойным настаўніку Браніславе Тарашкевічу, цяжка ўявіць сабе, што быў гэта той самы паслядоўны, непахісны рэвалюцыянер, якога палымяныя прамовы некалькі гадоў пазней узнялі беларускі люд на барацьбу з санацыйным рэжымам".

На артыкулы У. Паўлючука адазвалася Вера Ніжанкоўская з Радашковіч, першая жонка Б. Тарашкевіча, звяртаючы ўвагу на недакладнасці журналіста.

Да сёння невядома дзе пахаваны Б. Тарашкевіч. Упершыню ў 1957 г. стала вядома, калі памёр Б. Тарашкевіч. У давецы аб рэабілітацыі пададзена была дата смерці 22 лістапада 1941 г. Гэтую дату падала Аляксандра Бергман у сваёй кнізе пра Б. Тарашкевіча. Толькі ў 1979 г. выявілася, што Б. Тарашкевіч у сапраўднасці быў расстраляны 29 лістапада 1938 г.

У 1967 г. на першай старонцы „Нівы" з нагоды 75-х угодкаў Б. Тарашкевіча быў

працяг ☞ 11



# 2017 год

**Канчаецца 2017 год, няпросты год, бо простых гадоў не бывае. Няпростым ён быў у кліматычным плане і ў ва ўсіх іншых планах няпросты для нашай краіны, для нашага рэгіёна і цэлага сусвету.**

У кліматычным сэнсе быў ён надта капрызным годам. Спачатку доўга трымаўся ў нас холад, потым было суха, потым мокра і вельмі мокра. Пачаў часта падаць дождж, сталі разлівацца рэкі і затапляць ніжэй паложаныя тэрыторыі і тамашнія гарады і сёлы. Часта бушавалі магутныя вятры і нішчылі ўсё на сваёй дарозе. Гінула там людское дабро і, на жаль, людзі. Ураджайнасць у гэтым годзе была даволі добрая, але частка яе загінула. Праўда, кепска ўрадзіла садавіна. Затое багаты быў высып грыбоў, хоць грыбны сезон распачаўся позна. Так было ў нас. У свеце таксама ў гэтым годзе кліматычных клопатаў было нямала. У многіх рэгіёнах былі засухі, у іншых праходзілі ліўні, выступалі з берагоў рэкі, затаплялі жылыя месцы, нішчылі дабро і людзей. Абуджаліся вулканы, бушавалі разбуральныя землетрасенні і тарнада...

Вось і задаваў чалавек сам сабе пытанні: ад чаго і чаму штораз часцей і больш напорыста бушуюць такія разбуральныя прыродныя катаклізмы?!. Можа гэта за грахі нашы. А можа натура хоча паказаць неразумным нам, хто тут сапраўдны гаспадар? Мы не шануем прыроду — і прырода не шануе нас. Тым больш, што яна можа дасканала абысціся без нас, а мы ніяк не зможам выжыць без яе...

Не лягчэй было ў 2017 годзе і ў грамадска-палітычным жыцці. Нашы дзяржаўна-палітычныя эліты ўвесь гэты год змагаліся з перастройкай усяго нашага судаводства: ад Канстытуцыйнага трыбунала і Вярхоўнага суда да тарарыскага суда. І хоць гэтая работа і адказная, і складаная, але спачатку нашы заканадаўцы вельмі хутка спраўляліся з ёю. За адну ноч маглі прыняць цэлы пакет законаў, проста, раз, два — і ў дамках. Потым пачалі паяўляцца аднак перашкоды ў працы нашых заканадаўцаў — прэзідэнцкае вета...

На жаль грамадства наша моцна падзеленае, перасваранае і надалей сварыцца, што перашкаджае ў штодзённым жыцці, працы, уменні дагаварыцца з сабой, ісці на кампрамісы. Ненайлепей укладваюцца і нашы ўзаемаадносіны з Еўрасаюзам. Не падабаецца еўрасаюзнаму кіраўніцтву стыль працы нашага парламента, дзяржаўнага кіраўніцтва, не падабаюцца нашы новыя законы, нашы адносіны да еўрапейскіх правоў і абавязкаў, напрыклад, нашы адносіны да ісламскіх імігрантаў, Белавежскай пушчы і гэтак далей...

Ісламскія імігранты гэта канешне не падарак. Тым больш што з імі бываюць немалыя клопаты. Але з другога боку, яны сталі імігрантамі і з нашай немалой віны. Іх разагналі па свеце са сваіх родных месцаў ЗША з дапамогай НАТА. І мы не толькі не былі супраць гэтага, а, наадварот, актыўна памагалі рабіць яе, гэтую разгонку. Значыць, згодна з рускай прымаўкай «любишь кататься — люби и саночки возить», трэба і нам упрэгчыся ў гэтыя саначкі.

Пра Белавежскую пушчу скажу коратка. Я люблю нашу пушчу і часта бываю ў ёй. Сумна яна выглядае цяпер. Цэлыя кварталы ў ёй мёртвых, сухіх дрэў. Цэлыя кварталы ўжо ссечаных дрэў, якія або ляжаць покатам на месцы, або складзеныя ў піраміды ці як там называюць іх, або вывезеныя ўжо ці вывозяцца з пушчы. Які з гэтых чатырох варыянтаў найлепшы для пушчы я не ведаю. Здаецца што і ніхто з ваюючых бакоў толкам аб гэтым не ведае, але вострa бароніць сваю пазіцыю.

Пушчанская звярына глядзіць на ўсю гэтую людскую каніцель з крыкамі, лаянкай, шарпанінай, прывязваннем сябе да дрэў, да машын, узлаганнем на праезджай дарозе, узаемнымі судамі і проста рагочa на ўсю пушчу (па-свойму, па-звярынаму, канешне). Во дзе сапраўднае «rykowisko» круглы год.

І як тут не зарагочаш, калі раптам усе ўзяліся ратаваць пушчу: і цэнтральныя нашы ўлады, і мясцовыя, і эколагі, і ўвесь Еўрасаюз. І кожны па-свойму. «Шышкоўцы» выступаюць з тым, каб сухія дрэвы сячы, вывозіць з пушчы і прадаваць, чым яны цэлы год і займаліся. Эколагі наадварот — не сячы, а ўжо ссечаныя пакідаць на месцы. На баку эколагаў і Еўрасаюз. Ён мацюкае нашы ўлады і пагражае нам карамі...

Пушча гэта не толькі дрэвы, расліннасць, але і багаты звярыны свет — пачынаючы з розных жучкоў, матылёў, трохпальцых дзятлаў і канчаючы зубром. І над іх лёсам таксама пахіляюцца абаронцы Белавежскай пушчы. І гэта, канешне, пахвальна... А вось пра пушчанска-прыпушчанскіх пяціпальцых аўтахтонаў (а імі з'яўляюцца ў асноўным беларусы) і штораз больш складанай іх сітуацыяй ні ўрад, ні эколагі, ні Еўрасаюз, на жаль, зусім не перамаюцца...

А гэта ж дзякуючы ім захавалася такая ўнікальная пушча, адзіная ў Еўропе. І гэта ж яны найхутчэй знікаюць з пушчанска-прыпушчанскага краявіду з усіх відаў тутэйшай фаўны і флоры са сваёй культурай, рэлігіяй і традыцыямі. Шкада, вельмі шкада...

Так, кіраўніцтва Еўрасаюза не надта задаволенае з нас, з нашай непаслухмянасці. Затое НАТА напэўна задаволенае з нас. Мы вельмі ахвотна сталі членам яго і вядзем сябе актыўна, геройска ў ім, а натаўцы добра чуюцца ў нас. Ну проста ідылія пануе між намі. Дзе толькі не пабывалі ўжо нашы хлопцы з імі. На Балканах былі, у Іраку былі, у Афганістане былі. У Лівіі і Сірыі хоць і не былі, то моцна ўспамагалі там сваіх. Ды няпроста былі, а падобна неслі туды нашу дэмакратыю, хоць гэтыя краіны моцна бароняцца перад ёю. Вось таму гарыць і крывавіць колькі ўжо год Святая Зямля...

Чаму гарыць і крывавіць? Бо ЗША з дапамогай НАТА нарушылі там баланс сіл. Знішчылі там Садама Гусейна, Кадафі, нішчаць Асада, якія хоць цвёрдай рукой праўляліся са сваімі працаўнікамі, умелі ўтрымаць у сваіх краінах дысцыпліну і парадак. Відаць, інакш там і немагчыма. У іх краінах жылося тады даволі спакойна і нябедна. Яны былі таксам прыхільнымі нам. Нашы людзі бесперашкодна ездзілі туды на экскурсіі і на працу, а яны ахвотна прымалі нас і давалі працу. Многія проста цэлымі гадамі працавалі там і прывозілі адтуль так патрэбныя нам долары. Добра адносіліся таксама яны да сваіх хрысціян і іх (значыць і нашых) святынь... Не стала іх — і адразу паявіліся там проста д'ябальскія сілы, якія няшчадна нішчаць літаральна ўсё і ўсіх, аднак найбольш, канешне, хрысціян і іх храмы. А ЗША, хрысціянска-натаўскі Еўрасаюз нават пальцам не кіўнуў у абароне гэтых хрысціян. Дзе падзелася ваша баявітасць і прынцыповасць з часоў абароны вамі, напрыклад, сербскіх мусульманскіх касавараў? Ці ж арабскія хрысціяне менш дастойныя за іх?.. Не вельмі пахіляюцца еўрасаюзныя дзяржавы і над лёсам бежанцаў з Блізкага Усходу. Колькі ўжо часу ідзе паміж імі бойкі торг: хто колькі мае прыняць да сябе гэтых бежанцаў. А ў тым часе ўзмацняюць і робяць больш шчыльнымі свае граніцы і прапускныя гранічныя пункты, каб часам не прапусціць непатрэбных. А ў нас дапрацаваліся яшчэ лепшага адміністрацыйнага прыёму — акцыі „Różaniec do Granic”. У вызначаным часе граніца вакол нашай краіны абстаўляецца вернікамі, якія моляцца за каталіцкую Польшчу і хрысціянскую Еўропу. Без ісламу, канешне...

А вайна, не зважаючы ні на што, лютуе далей. Д'ябальскія сілы там усё растуць і растуць у сілу. Штораз мацней пагражаючы і нам тут, у Еўропе. Утаймаваць іх няма каму. А сытая і культурная натаўская Еўропа, як калісьці Пілат, умывае свае рукі, маўляў, што наша хата з краю. Не, галубчыкі, спачатку закончыце пачатую вамі вайну, а потым маеце права думаць, што ваша хата з краю, бо вайну заўсёды прасцей распачаць, як закончыць...

Увесь 2017 год дымеў і крывавіў канфлікт паміж Расіяй і Украінай. Гэты канфлікт трэба раздзяліць на дзве часткі: на крымскі і данбаскі. Калі пра крымскі можна судзіць і так, і сяк, то пра данбаскі толькі адназначна: непатрэбны, неразумны, небяспечны. Як вядома, з іскры можа разгарнуцца полымя, якое калі не знішчыць, то можа прынізіць русінскія праваслаўныя народы і вызначыць ім месца дзесьці на задворках гісторыі, з іх саміх віны, канешне...

У 2017 годзе адбываліся не толькі сур'ёзныя падзеі, але і забаўныя, смешныя здарэнні, напрыклад, у дыпламатыі. Бадай самай забаўнай з іх паявілася паміж ЗША і Паўночнай Карэяй, паміж Дональдам Трампам і Кім Чэн Ынам. Была яна злосная, агрэсіўная, вульгарная, але дзякуй Богу пакуль яшчэ толькі слоўная. Небяспечная гэта дыпламатыя, бо вялі яе дзяржаўныя мужы ядзерных дзяржаў і гарачыя па натуры хлопцы. Ад Трампа мы даведаліся, што Паўночная Карэя — гэта паганая краіна, якой кіруе ракетны дыктатар і банда крыміналістаў. А ад Трэцяга Кіма, што амерыканскі прэзідэнт — гэта каўбой... Падабаюцца мне прэзідэнцка-дыктатарскія мянушкі. Баюся толькі, каб не сталі яны прарочымі, бо каўбойска-ракетная сумесь бывае моцна выбуховай...

Дзякуй Табе 2017-ы! Не памінай і Ты нас ліхам...

Васіль САКОЎСКІ

---

Віктар ШВЕД

## Барысу Руско

*ў 25-годдзе дэбюту ў „Ніве”*

Ты, Дружа, інтэлектуал
З паэтычным інтэлектам.
Ствараеш заўжды ідэал,
Які ўспрымаецца з эфектам.

Матэматычны розум Твой
Імкне ў жыццёвую бясконцасць,
Аж да мінуўшчыны сівой
Углыб сусвету, зорак, Сонца.

Ты звышуражлівы пясняр
Адвечнай Белавежскай пушчы.
Колькі ж было імкненняў, мар
Сярод сцяжын айчыннай гушчы!

Табе жадаю ад душы
Безліч усіх даброт сардэчных.
Жыві нам, Дружа, і пішы...
Паэт сапраўдны жыве вечна!

Беласток, 6 снежня 1992 года

## Крыніца

Існуе нам наша Мора
Ужо паўтысячы гадоў.
Становіцца яно ўзорам
Старынных нашых крывічоў.

Мы тут, вядома, аўтахтоны,
Ніхто сюды нас не прывёз.
Жывем заўсёды на загонах.
Надта складаны быў наш лёс.

А Беларусь, наша Айчына,
Сведчаннем — моўныя сляды.
У розных мы жылі краінах,
Мяняліся яны заўжды.

Вельмі цанілі сваё слоўца,
Надта старынны наш фальклор.
Маліліся ў сваёй царкоўцы,
Праціўнікам наперакор.

А сёння ў новай мы краіне,
Хочам, каб добра было ўсім.
Верым, ніколі не загіне
Наш беларускасці ўздым.

## Лятучыя

*Яўгену Вапу*

Дарагі і натхнёны Яўген
Узначальваеш нашу „Ніву”,
Каб падняць падданых з кален,
Паўнапраўнымі зрабіць іх,
шчаслівымі.

Актуальная справа далей,
Іх раўняюць усё, і раўняюць,
А яны чамусьці раней
Незраўнанымі заўжды ўміраюць.

Вёсцы Мора пяць сотняў гадоў.
Тысячамі душы ўжо таўпяцца
Сярод праваслаўных крыжоў,
Ля царкоўкі сны вечныя сняцца.

Беласток, 25 кастрычніка 2017 года

* * *

Уплывае час нам хуткацечны
З нас ніхто тут на зямлі не вечны.
Прыбывае нам жыцця гадоў,
Убывае хтосьці нам з радоў.

І штораз часцей ужо кагосьці
З блізкіх пакідаем на пагосце.
Ведаем, такі надыдзе час,
Што пакінуць там таксама нас.

Хочацца на свеце тым гасцінным
Заслужыць добрыя ўспаміны.
Выпадковым каб не быць нам тут,
Калі свой пакінем родны кут.

# Засталіся адно ўспаміны (30)

Пашкоўшчына лічылася адной з лепшых вёсак у плане прысутнасці кінагледачоў. Сеансы дэманстравалі ў школе. Кіраўніком быў Станіслаў Заянчкоўскі. Разам з ім настаўнічала ягоная жонка (імя не запамяталася). З настаўнікаў апрача сужонства Заянчкоўскіх прыпамінаю адно Мікалая Рошчанку з Кляшчэляў. Станіслаў Заянчкоўскі пачаў працаваць у Пашкоўшчыне з 1955 года. Дзелавы гэта быў чалавек, майстар на ўсе рукі. І хоць лічыўся абмежаваным, заўжды знаходзіў сабе работу. Перад усім дбаў пра школьную пляцоўку. Разам з вучнямі засадзіў фруктовыя дрэўцы, задбаў аб агароджу. «Возьным» быў, як не памыляюся, Алёша Кулік, які пражываў непадалёк школы. Настаўнікі акуратна ставіліся да кіношнікаў. Дбалі, каб усе дзеткі ўдзельнічалі ў ранішніках. Хто не меў у гэты дзень грошай на білет, дык настаўнікі пазычалі. Пасля на тэму пабачанага пісалі сачыненні.

На кінасеансы прыходзілі жыхары Пашкоўшчыны, Тапчыкалаў, Градалёў. Прыходзіла шмат моладзі. Вялікай падзеяй была дэманстрацыя фільма «Уваскрэсенне» — экранізацыі аднайменнага рамана Льва Талстога. Упершыню пабачылі фільм пасівелыя бабулькі, якія ніколі не глядзелі кіно. У Пашкоўшчыне мы мелі шмат знаёмых, якія запрашалі нас на абеды і начлегі. Кінамеханік Алік Чарнянін з шафёрам Скепкам заходзілі да Славіка Лукашэвіча — «Рускага». Я заходзіў да Міхася Брэнькі з Градалёў. Міхась цікавіўся працай кінамеханіка.

■ Будынак колішняй школы ў Пашкоўшчыне

Алік прывучаў яго гэтай прафесіі. Навука не пайшла ў лес. Міхась пасля прайшоў прафесійнае абучэнне і працаваў кінамеханікам кінаперасоўкі на Сакольскім павеце. Мяне часта запрашалі ў госці Міхась Адынец (пасля быў ён солтысам, як не памыляюся, і пісьманосцам), кіраўнік дарожнага аддзялення ў Бельску-Падляшскім Стасюк. Часта сустракаліся мы на піве ў краме Сойкі. У час школьных канікулаў, асабліва ў святочныя дні, прыходзілі кавалеры з навакольных вёсак з віном, затым я пускаў пласцінкі і слухалі музыку. Я быў тады яшчэ нежанатым, а мае кампаньёны пасля вячэрніх сеансаў на матацыклах падаваліся дамоў. Вядома, пры музыцы і пачастунку праходзілі гаманлівыя размовы. І аднойчы кіраўнік Заянчкоўскі прад'явіў мне заўвагу, каб вечарам захаваць цішыню, бо яны кватаравалі на паддашку школы і не маглі заснуць. І яшчэ адну заўвагу прад'явіў мне кіраўнік наконт кінамеханіка.

— Скажыце свайму механіку, — папракаў кіраўнік Заянчкоўскі, — каб не баламуціў мне вучаніц...

Праўдай было, што адна дзяўчына ўтрэскалася ў кіношніка і не скрывала гэтага перад сяброўкамі. Затым гаворка дайшла і да настаўнікаў... Але ў маёй працы ў ВПК трапілася толькі адно такое здарэнне. Ад Пашкоўшчыны захаваліся ў маёй памяці самыя лепшыя ўспаміны.

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

## Калі скончацца непрыстойнасці?

Апошнім часам пайшла мода на «дакучлівасць». Пакрыўджаныя адклікаюцца да шматгадовай даўнасці. Тычыцца гэта непаўналетніх, як і вядомых персон з галіны шоў-бізнесу і палітыкі. А я пытаю, у якім свеце жывем? Куды вядзе наш напрамак? Жанчыны дапамінаюцца сваіх правоў, за свабодны доступ да «ін-вітра». Я дапамінаюся сваіх правоў ад органаў праварпарадку. Калі мая паштовая скрынка электроннай пошты перастане быць сметніцай для ўсялякай гадасці? Кожны дзень, калі адкрываю пошту, валасы дыбам падымаюцца ад такіх прапаноў: «Марафон у спальні на ўсю ноч з сённяшняга дня 23.11.2017! Пан Уладзімір, думаю, што пакарыстаецеся выключнай скідкай — 70% на феноменальны сродак для патэнцыі, якія працягвае палавыя зносіны нават на 30 мінут! Вырашыце ад разу праблемы з эрэкцыяй і закажыце цяпер ан-лайн капсулы, якія ўзмацняюць эрэкцыю. Марлена Цыранак». Да гэтай кампаніі далучаюцца дамулькі Магдалена Капернічак і Каміля Маркоўская — сексуальныя дарадчыцы.

Затым як паўнапраўны грамадзянін Рэчы Паспалітай, хрысціянін пытаю міністра ўнутраных спраў: як мне спакойна жыць і працаваць, калі штодзень атручваюць маё жыццё рознага віду свінствамі? Ці гэта не назойлівае надакучванне? Адкажыце спадар міністр!

**Уладзімір СІДАРУК**



Пэўна нішто так не дапамагае вывучэнню гісторыі, як яе нагляднасць. Менавіта таму, дзякуючы сучасным тэхналогіям, сталі магчымы не толькі разнастайныя гістарычныя фільмы ў 3D-фармаце, але і інтэрактыўныя карты, якія дазваляюць адсачыць гісторыю той ці іншай краіны ў той ці іншы прамежак часу. Напрыканцы восені ў інтэрнэце з'явілася такая карта, датычная гісторыі Беларусі.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас http://map.letapis.by, то перад яго вачыма адкрыецца даволі незвычайнае выяўленне сайта, які мае назву „Мапа станаўлення Беларусі". Незвычайнае яно ў першую чаргу тым, што дае магчымасць знаёміцца са зместам сайта не толькі пабеларуску (як кірыліцай, так і лацінкай), але яшчэ па-англійску, па-ўкраінску, па-руску, па-польску, па-партугальску, па-сербску і па-харвацку. Праўда, дзве апошнія мовы ёсць адной сербска-харвацкай мовай, стваральнікі сайта падзялілі яе паводле алфавіту: сербская, значыць, кірыліцай напісана, а харвацкая — лацінкай.

„Месцазнаходжанне Беларусі ў цэнтры Еўропы па-рознаму ўплывала на лёс краіны. З аднаго боку, прыносіла добрыя знешнеэканамічныя сувязі, а з іншага — прыцягвала войны і разбурэнні. Мы стварылі мапу станаўлення сучаснай Беларусі, каб нагадаць аб неверагоднай гісторыі нашай краіны", — распавядаецца крыху ніжэй за назоў сайта.

На інтэрактыўнай карце няма нейкіх рубрык, бо яна ўяўляе з сябе храналагічную лінейку з нерухомым контурам сучаснай тэрыторыі Беларусі. Калі навесці стрэлкай мышкі на нейкую дату ў лінейцы, то на карце можа з'явіцца той контур, які паказваў межы той дзяржавы, якая існавала тады на месцы будучай Беларусі. Але нават з таго часу, калі ніякіх дзяржаў там не было, там былі гарады. На сайце яны як зорачкі на начным небе — пазначаны белымі кружочкамі. Калі ж на іх навесці, то ўсплываюць назвы гарадоў і гады іх заснавання.

Паводле інтэрактыўнай карты, гісторыя Беларусі пачынаецца з Полацкага княства. Але межы яго не пазначаны. Першы абрыс тэрыторыі мы можам пабачыць толькі ад 1240-х гадоў, калі ўзнікла Вялікае Княства Літоўскае са сталіцай у Навагрудку. „Старажытныя беларускія княствы паступова ўваходзілі ў склад новай дзяржавы пасля далучэння да Навагародка суседніх земляў пад уладаю Міндоўга. Усе яны былі зацікаўлены ва ўмацаванні дзяржаўнай улады, што давала надзейную абарону ад ворагаў і магчымасць спакойна займацца земляробствам, гандлем і рамёствам", — каментуюць тагачасныя працэсы стваральнікі незвычайнага сайта.

На карце пазначаны не толькі даты павелічэння ці змяншэння тэрыторыі ВКЛ, а потым першай Рэчы Паспалітай, БНР і БССР, але і даты нараджэння і смерці дзеячаў, якія пакінулі заўважальны след у гісторыі Беларусі. Таксама ёсць і даты значных падзей, такіх як прыняцце герба Пагоня за дзяржаўны герб ВКЛ, заключэнне шэрагу мірных дамоў, перамогі і паразы ў тых ці іншых бітвах. Заканчваецца храналагічная лінейка 8 кастрычніка 2015 года, калі Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры. „Наша мэта — расказаць пра гісторыю Беларусі, не займаючы палітычных пазіцый і не звяртаючыся да правакацыйных фактаў", — сцвярджаюць стваральнікі сайта, пра якіх можна даведацца, пракруціўшы ўсю выяву да канца.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

# Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

## Даследнік старажытных курганоў

# 165 гадоў з дня нараджэння Вандаліна Шукевіча

Археолаг, этнограф, фальклярыст, калекцыянер Вандалін Шукевіч нарадзіўся 10 снежня 1852 г. у мясцовасці Нача (сучасны Воранаўскі раён). Паходзіў з сям'і адваката Аляксандра Шукевіча і Аліны Воўк-Карачэўскай. Маёнтак Нача быў маёмасцю маці. Пасля нараджэння Вандаліна бацькі развяліся, выхоўвалі яго маці і бабуля. Яны фармавалі характар будучага вучонага і займаліся яго адукацыяй. Вучыўся Вандалін дома, першым настаўнікам стаў сябра Уладзіслава Сыракомлі паэт Уладзіслаў Абакановіч. У 1869 г. Вандалін Шукевіч разам з сястрой Ідаліяй прыехаў вучыцца ў Варшаву. Паступіць ва ўніверсітэт, дзе ўжо панавала расейская мова, ён па розных прычынах не здолеў і ў 1871 г. вярнуўся ў Начу. Пераняў кіраванне маёнткам і займаўся сельскай гаспадаркай. Адначасна купляў кнігі ў Вільні, выпісваў іх з-за мяжы і працягваў самаадукацыю. Паглыбляў веды па гісторыі, археалогіі, прыродазнаўчых навуках. Захапляўся фізікай і астраноміяй.

Першай жонкай Вандаліна была Браніслава з сям'і Сямашкаў-Паўловічаў, дачка чыноўніка курыі біскупаў у Вільні. З ёй меў сына Рамана Зыгмунта і дачку Ванду Аліну. Жонка рана памерла. Шукевіч ажаніўся другі раз — з Юліяй Камінскай. Гэты шлюб стаўся няўдалым, жонка не разумела навуковых захапленняў мужа і атручвала яму жыццё.

Шукевіч даследаваў археалагічныя помнікі на паўночным захадзе Беларусі і поўдні сучаснай тэрыторыі Літвы. Адкрыў больш за 130 помнікаў каменнага веку, вёў раскопкі грунтавых і курганных могільнікаў каля вёсак Нача, Пузелі (Воранаўскі раён), Вензаўшчына, Дварчаны, Апонаўцы, Сырні, Чарнішкі. Даследаваў 16 курганоў і 376 каменных магіл тыпу жальнікаў XIII-XIV стст. Увосень 1903 г. Шукевічам было зроблена вельмі цікавае, адразу заўважанае ў навуковым свеце адкрыццё так званых грунтовых магіл. Вандалін Шукевіч даследаваў Троцкі, Лідскі і Радуньскі замкі.

У ваколіцах Ліды Шукевіч запісваў народныя паданні, легенды, прыкметы, якія потым публікаваў у часопісах. Дзве вялікія цікавыя працы Вандаліна Шукевіча данеслі да нас сотні запісаў помнікаў духоўнай народнай творчасці. Так, у артыкуле „Народныя вераванні і абрады (забабоны, прымхі, прадказанні і інш.), сабраныя ў Віленскай губ." змешчана 432 запісы. Гэты збор дапаўняецца тэкстамі 15 легендаў, паданняў, чарадзейных апавяданняў і 159 вераванняў, прымхаў у артыкуле „Некаторыя вераванні, прымхі і забабоны нашага люду, легенды і паданні". Значную цікавасць уяўляе і артыкул Шукевіча „Старажытныя лекавыя сродкі", прысвечаны народнай медыцыне. У 1916-1917 гг. Вандалін Шукевіч у наваколлях Начы адчыніў ажно 18 школ пачатковага роўню, запрасіў настаўнікаў з горада, забяспечыў дзяцей падручнікамі, алоўкамі і іншымі прыладамі, даваў кнігі са сваёй бібліятэкі.

Памёр Шукевіч 1 снежня 1919 г. у Начы. Археалагічныя і этнаграфічныя калекцыі ён захоўваў у маёнтку ў Начы, пры жыцці перадаў іх у Віленскі музей Таварыства сяброў навук, а таксама ў зборы Эразма Маеўскага ў Варшаве і ў Этнаграфічны музей у Кракаве. Пэўныя рэчы трапілі таксама ў музеі Пецярбурга і Масквы. Віленскія зборы ў час войнаў і змен улады былі амаль поўнасцю знішчаны і разрабаваны. Пахаваны каля в. Нача ў сямейнай капліцы (Воранаўскі раён). Капліца доўгі час была ў разрабаваным і паўразбураным стане. У 2004 г. была яна адрамантавана. Цяпер знаходзіцца там алтар і склеп з парэшткамі Шукевіча і яго сямейнікаў.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

9 ☞ працяг **Браніслаў ТАРАШКЕВІЧ**

змешчаны яго здымак і рэкамендаваліся ўспаміны Мар'яна Пецюкевіча, які сустракаўся з Б. Тарашкевічам, калі той быў яго настаўнікам і дэпутатам польскага Сейма. М. Пецюкевіч успамінаў яго як свайго настаўніка ў Віленскай беларускай гімназіі, які правіў яго першыя паэтычныя спробы. Сустракаўся з ім таксама ў яго роднай парафіі ў Лаварышках, дзе ксяндзом быў Янка Семашкевіч, а арганістам Янка Пазьняк.

А. Бергман была таксама ўдзячная М. Пецюкевічу за дапамогу ў распрацоўцы біяграфіі Б. Тарашкевіча. Як шмат ён ёй дапамог сведчаць яго лісты. Аляксандра Бергман вярнула памяць пра Браніслава Тарашкевіча ў Польшчы публікуючы пра яго кнігу ў 1977 г., раней апублікаваўшы пра яго артыкулы ў „Ніве" і ў польскіх гістарычных часопісах. Ва ўступе да беларускага выдання гэтай кнігі напісала пра сваю зацікаўленасць Б. Тарашкевічам: „Калісьці ў мяне спыталі, чым так прывабіла мяне асоба Браніслава Тарашкевіча, чаму гэтулькі часу аддаю збіранню матэрыялаў пра яго. Адказала і сёння паўтараю: прычыны належыць шукаць у ім самім, у гісторыі яго жыцця. Спачатку Тарашкевіч зацікавіў мяне толькі як заснавальнік і правадыр Беларускай сялянска-работніцкай грамады. (...) Паступова, па меры збірання звестак, пераканалася, што не толькі гэты перыяд, але і ўсё жыццё Тарашкевіча было цікавае і ў многіх адносінах павучальнае, бо належаў ён да тых людзей з Віленшчыны, якія валодалі незвычайнай годнасцю і выключнымі здольнасцямі. Намер напісаць па магчымасці поўную біяграфію Браніслава Тарашкевіча з'явіўся ў ходзе бліжэйшага знаёмства з яго асобай. (...) Матэрыялы пра Браніслава Тарашкевіча пачала я збіраць з 60-х гадоў, але толькі ў 1972 годзе пашчасціла мне апублікаваць тое, што ў ранейшых варунках было не так проста зрабіць, — надрукаваць хоць бы нарыс з яго жыццяпісу". У размове Георгія Валкавыцкага (галоўнага рэдактара беластоцкай «Нівы») з Аляксандрай Бергман, пасля выхаду яе кнігі пра Б. Тарашкевіча яна сказала пра яго значэнне: «Вучыцца ў яго можна ва ўсіх галінах, у якіх прымаў удзел, бо быў творчы. Перш за ўсё асоба. У кожных абставінах грамадскі і нацыянальны інтарэс ставіў вышэй асабістага. У цяжкіх хвілінах не вёў сябе пакутнікам, ахвярай часу, захаваў чалавечую годнасць. Усё рабіў з задавальненнем, цяжкасці яго ў пэўным сэнсе развесялялі і выклікалі добры настрой. Цяжкасці сустракаў з узнятай галавой». Кніга А. Бергман была перакладзена на беларускую мову толькі ў пачатку 90-х гг. і выйшла ў Мінску толькі ў 1996 г., амаль 20 гадоў пасля польскага выдання. У «Слове да чытача» Арсень Ліс пісаў пры высокія вартасці кнігі: «рэч, бясспрэчна, актуальная. Актуальнасць манаграфіі польскай даследчыцы заключаецца перш-наперш у тым, што яна прысвечана аднаму з найбуйнейшых дзеячаў беларускага адраджэнска-вызваленчага руху навейшага часу. А. Бергман асэнсоўвае палітычны лёс Тарашкевіча на ўнікальна багатым дакументальна-архіўным матэрыяле, скрупулёзна сабраным у Варшаве, Вільні, Маскве. Гэта дазволіла даследчыцы глыбей прасачыць унутраныя пружыны грамадска-палітычных працэсаў 20-30-х гадоў, аб'ектыўней зразумець і больш выпукла паказаць вобраз аднаго з самых самаахвярных і трагічных барацьбітоў за суверэнную Беларусь. Надзённасць кнігі А. Бергман яшчэ і ў тым, што яна зноў жа грунтоўна асвятляе грамадаўскі рух, ля вытокаў якога стаяў Тарашкевіч. (...) Ацэнка ўкладу грамадаўскага руху ў палітычнае разняволенне беларускага народа яшчэ наперадзе. Зрэшты яна ў пэўнай меры выцякае і з даследаванняў А. Бергман, якія ў адрозненне ад эскападаў супроць БСР Грамады, зробленых у апошнія гады журналістамі, носіць не публіцыстычны, а навукова аргументаваны характар. Няма сумніву, што беларускі вызваленчы рух, пазначаны этапам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, быў і застаецца прыкметнай вехай на ахвярным шляху беларусаў да свабоды».

(працяг будзе)

❖ Лена ГЛАГОЎСКАЯ





## Адгаданка

**1.** зброя мечаносца, **2.** праяўленне ў патомках прыкмет, што былі ўласцівы яго аддаленым продкам, быццам... у другога пакоса травы, **3.** японскі горад збамбардзіраваны 6 жніўня 1945 года, **4.** жанчына з баянам, **5.** антонім дабра, **6.** трэці гук музычнай гамы, **7.** гучны, нястрыманы смех, **8.** прозвішча двух з сямі апошніх прэзідэнтаў ЗША, **9.** кустовая расліна з блакітна-ліловымі або белымі пахучымі кветкамі (*Syringa vulgaris*), **10.** чалавек блізкі каму-небудзь па агульнасці поглядаў ці дзейнасці, напрыклад Пётр Машэраў Кірылу Мазураву.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |
| | | | 1 | 2 | | | 3 | | |
| | | 4 | | | 5 | | 6 | | |
| | | | | | | | 7 | | |
| | | | 8 | 9 | | | 10 | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Дзеўка, дзік, кадзіла, пута, ступа, „Уліс".

Рашэнне: **У лістападзе кладзі капусту ў кадзі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

## 10.12 — 16.12

**(22.03. — 20.04.)** Раптоўнае здарэнне можа шмат змяніць у тваім жыцці. Магчымы прыліў грошай, зробленых няцяжкай працай — можа гэта быць спадчына або выйгрыш. Да 12.12. не закахайся ў неадпаведную асобу. 13-17.12. можаш прыхіліць да сябе нейкую грамадскую групу. 14.12. (да 18.12.) трэба будзе адмяніць свае прафесійныя планы; хутка яшчэ падвучвайся.

**(21.04. — 21.05.)** 11-12.12. могуць вярнуцца справы якіх ты яшчэ не аформіў. 9-12.12. не бяры пазык. З 9.12. удалае лячэнне, хуткае вяртанне да здароўя. Але магчымыя аварыі, апёкі, пакалечанні; асцярожна з нажамі і агнём. Тое, што здавалася быць зацяжкім, зробіш прыпяваючы. Не выключана, што будзеш прымушаны змерыцца з вонкавай канкурэнцыяй — варта ўзяцца за выклікі. Старайся не перамагаць усёй цаной. Асабліва няхай будуць асцярожныя Быкі з трэцяй дэкады — не дайце сябе абмануць, ублытаць у інтрыгі.

**(22.05.—22.06.)** 10-11.12. крэатыўнасць і творчая свабода. Але не прабуй нічога ані нікога змяняць сілай. Многа працы, кончыш распачатыя праекты і запалануеш новыя. Калі шыкуешся да важных размоў пра пачуцці і будучае жыццё, зрабі гэта 11-15.12. Старайся абмінаць прастуджаных, не фарсіруй здароўя.

**(23.06. — 23.07.)** Спакойна і крыху нуднавата. 12-14.12. парабі парадкі дома; можаш знайсці штосьці даўно загубленае. На працы набярэш упэўненасці і возьмешся за кожны выклік, а нават кінеш рукавіцу канкурэнцыі. Неспадзяваныя перастаноўкі ў фірме (11-16.12.) на момант выб'юць цябе з рытму (не павінны цябе крануць), займайся сваімі справамі. Набярэш апетыту на спорт, пачынай спакойна, не натужвайся.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш развівацца і здзяйсняць свае мары. Марыш аб павышэнні або канчатковай расправе з канкурэнцыяй — бярыся ўжо з нядзелі 9.12.! Але 10-12.12. не заблытайся ва ўласных падманах. Аформіш усе справы, якія доўгі час не даваліся зварухнуцца з месца. Добра складуцца адносіны з сям'ёй. З 13.12. (да 17.12.) можаш вырашыць важную сардэчную справу. Ільвы ў трэцяй дэкады — 12-14.12. можа будзеце мець кваліфікацыйную размову з замежным інвестарам ці прапанову працоўнага выезду за мяжу.

**(24.08. — 23.09.)** Адпаведны момант на новыя мерапрыемствы. Можаш разлічваць на развязку праблемы, якая здавалася быць надта складаная. Удалы абарот спраў у рэалізацыі асабістых планаў. Калі плануеш хірургічную аперацыю, ідзі ў бальніцу пасля 9.12. Пячонку ўзмацняй зёлкавымі прэпаратамі.

**(24.09. — 23.10.)** Новыя перспектывы, знакаміты клімат для развою талентаў, гарантыі фінансавых удач. 13-17.12. будзеш проста шчаслівы. 13-17.12. знакаміты час для наладжвання прафесійных кантактаў. Хаця 10-12.12. можа не дастанеш усяго, чаго хочаш. З 9.12. радзейшы сустрэчы ў спальні, але затое больш размоў. Пашырыцца кола знаёмых, сярод іх будзе хтосьці вельмі ўплывовы, хто ў будучыні падтрымае цябе ў патрэбе. Калі хутка зрэагуеш, можаш хутка зарабіць немалыя грошы.

**(24.10. — 22.11.)** 10-12.12. можаш расчаравацца ў чымсьці. З 10.12. пачне хутка папраўляцца тваё здароўе. Будзеш мець шчаслівую руку да грошай. Варта табе схадзіць да дантыста. Атачайся зялёнымі раслінамі. Расслабішся ўнутрана, а спантаннасці табе хопіць, як у каханні, так і на працы. Правядзеш мілыя хвіліны з кімсьці новым. У пастаянных парах ажыўленне пачуццяў.

**(23.11. — 22.12.)** Хтосьці дасць табе каштоўныя падказкі і парады. Калі можаш зарабіць нейкія грошы, апярэдзіш іншых, прадбачыш вынік здзелкі і скарыстаеш на гэтым. Некаторыя пары з доўгім стажам глянуць праўдзе ў вочы 8-12.12.; можаце яшчэ ўсё ўратаваць. Можаш змяніць штосьці ў сваім выглядзе. Не дачакаўся адказу на сваё «Сі-Ві» — не перажывай, праца будзе.

**(23.12. — 20.01.)** 10-12.12. магчымыя апаскі, чорныя думкі, благія ўспаміны. Цяпер лепш не выбірайся ў далёкае падарожжа, асабліва ў іншую кліматычную зону. Дасягнеш паразуменне ў важнай справе. Наступіць збліжэнне і поўнае паразуменне з супрацоўнікамі.

**(21.01. — 19.02.)** 9-11.12 здаўна турбуючая цябе праблема развяжацца сама. Усё ж цяжка будзе табе засяродзіцца і сказаць чаго хочаш. Адчуеш дух сапернiцтва, што змабілізуе цябе да працы, але можа ўнесці нездаровую атмасферу ў калектыў. У мастацкай кар'еры спрыяе Венера, але 10-12.12. не ўпірайся быць зоркай. Пасля 9-10.12. зваротны момант у хваробе. Планы і намеры ўпарадкуюцца і набяруць імпэту.

**(20.02. — 21.03.)** 10-12.12. не стань ахвярай ашуканцаў; магчымыя непаразуменні ў пары. Цікавыя людзі адчуюць у табе братнюю душу і пашукаюць тваёй кампаніі. Тое што ім запрапануеш цяпер, вернецца да цябе шматкроць. Аказвай добрае сэрца людзям. На працы будзеш адказны і адважны, гэта прынясе плён.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Чыгунка з гістарычным зместам

Раней быў крыху тут пісаў пра перабудову чыгуначнай лініі паміж Беластокам і Бельскам. Тая лінія ўжо працуе, а ў чаргу для абнаўлення стаў чарговы адрэзак колішняй Берасцейска-Граеўскай чыгункі паміж Бельскам і Чаромхай. Рашыў я цяпер паглядзець як тут выглядае працэс абнаўленчых прац.

Адпраўляюся з прыпынку Беласток-Стадыён. Тут зноў навізна — каля прыпынку мае канчацца размашыста будаваная Траса Незалежнасці, якая пачынаецца з Элцкай шашы. Адна ветка гэтай шашы мае павярнуць у Кляосін і далей у напрамку Лапаў. І вось гэтая ветка мае пралегчы па-над чыгуначнымі пуцямі ўпрытык са згаданым прыпынкам. Ужо заліваюцца бетонныя апоры для віядука пад гэтую ветку.

А на прыпынку паказальнік напрамкаў руху цягнікоў — адзін паказвае галоўны вакзал Беластока, а ў другі бок Чаромху і Гайнаўку. Значыць абяцанае абнаўленне пуці між Бельскам і Гайнаўкай быццам набірае ранг факта...

Цягнік у нас — бо цягнецца, а ў больш паўднёвых славян гэта влак — бо, відаць, валачэцца. Цяпер, па новых рэйках, хутчэй. За акном асеннія краявіды. Пойма Нарвы каля Страблі падаецца быць вялікім люстрам, адно толькі тое люстра густа зарослае зрудзелым травастоем. За Страбляй ссечаны старыя прыдарожныя вербы, у лесе паміж Гусакамі і Райскам крыху вываратаў, якіх, мабыць, ніхто не прыбярэ. Магчыма, што ў ранейшы, людны ў вёсках час, тыя вываратні даўно ўжо абагравалі б вясковыя хаты. Але ў вясковых хатах штораз менш каму грэцца.

У Бельску перасадка на нярэйкавы аўтобус. Паводле бачаных раней мною раскладаў язды цягнікоў мелі яны спыняцца ў Рыгораўцах. Калі абнаўлялі чыгунку між Беластокам і Бельскам, то заступны аўтобус заязджаў як найбліжэй традыцыйных чыгуначных прыпынкаў. Думаў я што і на чарговым адрэзку так будзе. Яшчэ спытаў кандуктарку ці аўтобус заедзе пад прыпынак у Рыгораўцах, ці толькі ў вёску; адказала, што ў вёску. Не падазраваю ніякай нечаканасці, але ў Малінніках той аўтобус пашпарыў прама ў напрамку Сухавольцаў, пакідаючы Рыгораўцы па-за сваім маршрутам. Тая ж кандуктарка цяпер паінфармавала мяне, што прыпынак Рыгораўцы быў у Малінніках...

Заехаў тады ў Сухавольцы, адкуль да чыгункі крыху далей, чым з Рыгораўцаў. Зайшоў у краму, што пры адгалінаванні дарогі ў Вульку-Выганоўскую, а заадно і ў напрамку чыгуначнага прыпынку Сухавольцы. На краме нават шыльды няма, толькі перад крамай шыльда нейкага бровара. Усярэдзіне пажылы пакупнік і такая ж прадавачка. Дазволілі мне справіцца пазачаргова, бо, відаць, у іх былі нейкія навіны для больш дэталёвага разгляду.

Дарога з Сухавольцаў да аднайменнага чыгуначнага прыпынку ў недалёкай яшчэ даўніне пралягала сярод палёў. Зараз шмат тых палёў зарасло маладым яшчэ лесам, частка іх абсаджана запушчанымі парэчкавымі кустамі. Бадай у канцы мінулага стагоддзя адкрыўся замежны попыт на чорную парэчку, які і выклікаў шматлікія насаджэнні яе кустоў, а пасля тая шматлікасць прывяла да масавага спаду цэн і да нерэнтабельнасці парэчкавых плантацый; цяпер на іх шпарка гаспадарыць прырода. Яшчэ дзе-нідзе стаяць у полі адзінокія грушы. Пры даўнім перакрыжаванні дарог абгароджаны драўляным плотам цэментны крыж, пастаўлены калісь як ахвяра дзеля здароўя Дзмітрыя і Васілія, а далей Анны і Ольгі. Побач распадаецца загарада для кароў, у якой калодзеж з бетонных кругоў...

Новыя чыгуначныя рэйкі ўжо пракладзены, ляжаць роўненька, быццам строй салдат, чакаючы з'яўлення важнай персоны; рэйкі гатовы ўжо прыняць на сябе цягнікі. На прыпынкавых стэндах размешчана інфармацыя, што з 9 снежня ўступіць новы расклад руху цягнікоў, а чыгуначны рух вернецца на рэйкі.

На чыгуначным насыпе, які быў прадбачаны для двух пуцей, цяпер адзін пуць на аднасна высокай шчэбневай падсыпцы. На месцы другога пуці свежыя яшчэ сляды людзей і машын. Па-за межамі чыгуначнага насыпу дзе-нідзе растуць яблыні, на якіх яшчэ красуюцца цалкам сакавітыя яблыкі — такі калячыгуначны садок. Паказваецца і паляўнічая вышка, якая ўспела ўжо абрасці кругом лесам. Яшчэ дваццаць гадоў таму з акон поезда можна было пабачыць адлеглую каля трох кіламетраў ад чыгункі воленскую царкву; зараз тамашні краявід завязаны маладым лесам, які з прагрэсіраваннем часу пасталее, з'явіцца ўсходнесценная пушча. Яшчэ захоўваюцца лапікі поля; на мяжы аднаго з іх паўтыканы кволыя шасты з завешанымі на іх старымі вопраткамі, што маюць адпуджваць няпрошаных у полі гасцей з акружаючых лясоў. А побач поля ў ляску валяецца ўсё тое, што ў свой момант аказвалася лішнім у гаспадаровых руках... На адхоне чыгуначнага насыпу залеглі і тры рэйкі, мабыць пакінутыя нейкаму беражліваму гаспадару. Бо метал тутэйшаму народу патрэбны, на што паказвае і агароджа аднаго з масткоў, дзе спілаваны гарызантальныя часткі поручняў; вертыкальныя яшчэ асталіся. На пераездзе каля Рыгораўцаў машыны пракопваюць раўчак для пракладкі кабеля.

Крыж у Рыгораўцах

А мне, ідучы крок за крокам па чыгуначным насыпе, прыйшло ў галаву пытанне, колькі фурманак зямлі трэба было навазіць на адзін такі крок насыпу, насыпу для двух пуцей. Пяць даўніх жалезнякоў хіба малавата, магчыма, што на адзін крок насыпу трэба было ў сярэднім звезці каля дзесяці фурманак, а на метр то і два разы больш. Берасцейска-Граеўскай чыгункі 212 кіламетраў, звыш двухсот тысяч метраў, каля чатырох мільёнаў фурманак. Напрацаваліся — і людзі, і коні; пра калеснікаў, рымараў ці кавалёў не згадваючы, не згадваючы пра якасную драўніну, валовыя шкуры ці дзярновую руду...

Дзярновая руда магла задаволіць патрэбы кавальскага рукадзелля, але ўжо выраб чыгуначных рэек патрабаваў больш магутнай і па колькасці, і па якасці жалезнай сыравіны. І было гэта на той час пытанне дзяржаўнай важнасці. І каля паловы XIX стагоддзя думалі царскія міністры, у якім напрамку скіраваць дзяржаўныя рэсурсы — на развіццё ўласнага здабывання жалезнай руды і ўласнай вытворчасці рэек, паравозаў, гарматных снарадаў, ці на куплю ў замежжы гатовых рэек, паравозаў і гарматных снарадаў. Тадышні міністр фінансаў Міхаіл Рэйтэрн пісаў цару Аляксандру II: „Вашему Императорскому Величеству известно мое убежденіе, что развитіе у нас рельсоваго и некоторыхъ другихъ горныхъ производствъ составляеть одно изъ жизненныхъ условій будущаго экономическаго состоянія Россіи. Постепенное, но по возможности безотлагательное развитіе рельсоваго, пушечнаго, какъ стальнаго, такъ и чугуннаго производствъ, выделки у насъ брони и т. п. облегчить ту тяжелую дань заграничныхъ платежей, которые ныне тяготеють на нашемъ государственномъ кредите. Россіи необходимы железныя дороги, останавливать сооруженіе железныхъ дорогъ впредь до достаточнаго развитія рельсоваго промысла, только что начинающагося, очевидно невозможно; но съ другой стороны столь же очевидно, что, не будеть у насъ рельсовъ — не можеть развиться горный промысель, если все наши дороги будуть сооружаемы изъ рельсовъ, допускаемыхъ безпошлинно изъ Англіи". А з гэтай палітыкай здарылася асечка; энцыклапедыя Брокхаўза: „Правительственные заказы раздавались заводам, которые большей частью были расположены вне месторождений русских железных руд и русского минерального топлива, вследствие чего производство рельсов хотя и достигло значительного развития, но сталь при этом на 2/3 вырабатывалась из иностранного чугуна, на иностранном же горючем материале, и жертвы, понесенные государственным казначейством, не привели к усилению разработки отечественных подземных богатств".

Варта тут таксама ўлічыць і тое, што трэба было вельмі многа рэек для вялізнак агромністай імперыі, таму пракладка ліній ішла даволі памяркоўнымі тэмпамі. Для прыкладу, чыгункі ў нашым наваколлі паяўляліся ў наступнай чарговасці: з Варшавы ў Рогаў і Ловіч у 1838 годзе, з Рогава ў Чанстахову ў 1845 годзе, у наступных двух гадах прадоўжаная да дзяржаўнай расійска-аўстрыйскай граніцы. У 1860 годзе з Ловіча ў Кутна. У 1862 годзе з Дзвінска цераз падвіленскае Ландварова ў Коўна і Варшаву — тады цягнікі ўпершыню завіталі на Беласточчыну. У 1865 годзе з Дзвінска ў Полацк і Віцебск ды з варшаўскай Прагі ў Седльцы і Лукаў. У 1871 годзе са Смаленска ў Брэст. У 1873 годзе з Брэста ў Граева і ў Ковель. У 1886 годзе з Беластока ў Баранавічы. У 1887 годзе з Брэста ў Холм і з Седльцаў у Малкіню. У 1893 годзе лінія Лапы — Астралэнка — Малкіня. У 1895 годзе з Бельска ў Гайнаўку. У 1897 годзе з Гайнаўкі ў Белавежу, у наступным з Лукава ў Люблін. У 1899 годзе з Аліты ў Гродна (цераз Сувалкі і Аўгустаў). У 1906 годзе з Ваўкавыска ў Седльцы, у наступным з Ваўкавыска ў Полацк і Балагое. Нават у вайну, у 1916 і 1917 гадах была здадзена лінія з Нарвы цераз Пскоў у Полацк. З таго часу новыя чыгуначныя лініі ў нашым наваколлі, па сутнасці, не паявіліся.

Калі згадка пра вайну — чыгунка была вельмі важным стратэгічным фактарам і за яе вялося заўзятае змаганне. І за той менавіта адрэзак, па якім я прайшоўся ад Сухавольцаў да Рыгораўцаў; каля апошняй мясцовасці паметкі таго крывавага змагання — вайсковыя могілкі перыяду Першай сусветнай вайны. Між Рыгораўцамі і Вулькай-Выганоўскай расійскія і нямецкія ваенныя могілкі, між Рыгораўцамі і Малиннікамі — нямецкія. На апошніх пахаваны салдаты 175 кайзераўскага пяхотнага палка. Полк быў у складзе 36 пяхотнай дывізіі, якая ў пачатку вайны ваявала каля Голдапа, а ўжо з верасня 1914 года змагалася каля Радама і Лодзі. У ліпені 1915 года фарсіравала Нарву каля Пултуска, 8-12 жніўня вяла баі каля Астрові і Замбрава, а з 19 па 25 жніўня білася на подступах да Бельска. 6 і 7 верасня вяла бой за Ваўкавыск, а з канцом верасня была перакінута на заходні фронт, у Бельгію і Францыю...

Заступны аўтобус, што пасля нядзельнага поўдня адпраўляецца з Чаромхі ў напрамку Беластока, запаўняецца пасажырамі амаль бітком, галоўным чынам школьнай моладдзю. Па буднях народу ездзіць значна менш. І толькі цікава, колькі пасажыраў паедзе ў будучыні па ветцы паміж Бельскам і Гайнаўкай; і ў будні, і ў святочныя дні. І ў гандлёвыя — сераду ў Гайнаўцы і чацвер у Бельску...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960